*І спазнаеце праўду, і праўда зробіць вас вольнымі.*

**Ян 8:32**

**Прысьвячаецца Дыктатару[1]:**
**c`est la vie**

Дарога была спрэс усеяная цельцамі дохлых купідончыкаў, і раз-пораз яны лопаліся пад коламі грузавіка са сьмешным гукам, падобным да выхаду кішэчных газаў.

Самотная бляклая фара высьвечвала бясконцыя зарасьці безуважнага да ўсяго гольля. Машына ледзьве прадзіралася скрозь яго.

— Ай-ёпцькэдрэнефень, — вылаяўся кіроўца перад тым, як уключыць бліжняе сьвятло.

— Зараз прыедзем, — супакоіў яго пасажыр. — Там выгрузішся, разьвернешся — і гамон.

— Ды дзе ўжо, ёкэрэбэрэ! — дзядзька пачухаў патыліцу. — Во, мля, глядзі, ёпт...

І сапраўды, калі прыгледзецца, можна было заўважыць, што камлі дрэваў усьцяж пакрытыя тонкімі курынымі лапкамі. Яны расьлі аднекуль з-пад кары — як і ўсё жывое, цягнучыся ў бок неба.

— Во, можа майму сабачку такіх надраць? — узрадаваўся кіроўца. — Калі ты пачакаеш...

— Думаю, ня варта, — чакаць пасажыру відавочна не хаце-

---

[1] Пэрсанаж аповесьці Альгерда Бахарэвіча "Паразыт", які стварыў уласную краіну.

лася. — Пагатоў, твой сабачка іх усё адно есьці ня будзе. Яны гумовыя.

Каму, як не Σ, было ведаць, што ўвесь антураж Лесу Татальнай Свабоды вырабляўся з гумы ці плястыліну! Да гэтай справы часта падключалі школьнікаў пачатковых клясаў раёна — асабліва пасьля таго, калі якое стыхійнае бядоцьце выклікала значныя разбурэньні лясного масіву.

— Ну і як там у вас? — пытаньне кіроўцы перапыніла маўчаньне, што дагэтуль трывала некалькі хвілінаў.

— Дзе? У Атлянтыдзе?

— У Гаўнаідзе, мля. Ясная справа…

— Ну нічога так, перабіваемся. Толькі вось заробак ужо два месяцы ня плоцюць. Я там наладчыкам па мармуры. Статуяў у нас многа, мля…

— З буем?

— Ды ўсякіх. Ну добра, тармазьні.

— Што, тут выгружаць будзем?

— Тут, тут. Тармазьні.

Машына зь віскатам прыпынілася проста пасярод бруднай каляіны. Вакол быў такі самы лес, як і паўсюль. І тое, што менавіта недзе ў ягоных нетрах тоіцца патрэбнае месца, невялічкі люк, прыкрыты насьпех зьбітымі паміж сабой дошкамі, Σ адчуваў бадай інтуітыўна.

Кіроўца адкрыў зацягнуты брызэнтам кодаб грузавіка і, цяжка пыхкаючы, ускараскаўся туды.

— На, трымай давай, мля, — крыкнуў ён пасажыру, падцягваючы да борціка машыны ўжо відавочна ня новую крэсла-канапу. — Давай, цягні… цягні… на сябе…

Σ няўклюдна падпарадкоўваўся.

— А што, у вас там з мэбляй бяда, што ты яе за хераву тучу кілометраў цягнеш? — запытаў кіроўца, калі канапа ўжо была выгружаная.

— Ну так, ёсьць троху. У крамах ложкі толькі мармуровыя стаяць, ці з чыгуну і пад золата. Для статуяў дык зашыбісь будзе, а з жаной на такім ня дужа каб… Аж срака адвальваецца.

— Зр-разумела.

Σ уключыў ліхтарык і, рассоўваючы нагамі хмызы, вырушыў на пошукі ўваходу ў сваю краіну.

Раптам пад ягоным ботам нешта бдзынькнула, і ён адразу ж спалохана адторгнуў нагу, не прамінуўшы вылаяцца. Але гэта быў усяго толькі мэханічны кажан — звычайны насельнік такіх мясьцінаў. Імкліва ўзьняўшыся на самую высокую галіну найбліжэйшага дрэва, ён заверашчаў з добра адчувальным кітайскім акцэнтам: “Добр’і дз’ень, пач’інаем ранішнюю гімнасьсіку…”.

Σ яшчэ раз вылаяўся і пасунуўся далей.

— Ну што, дзе ты там застраў? — Вадзіла ўжо, мяркуючы па ўсім, пачаў непакоіцца.

— Зараз, зараз, — не азіраючыся, адказаў Σ.

Ага, вось і яно! Акурат Ружовыя брамы. Адсюль на вуліцу Вечнага Вызваленьня, там пяць прыпынкаў на трамваі… Ці, калі што, можна якога кентаўра злавіць. Або як яны там у Атлянтыдзе называюцца?

Ай, трэба ж яшчэ й мэблю давезьці!

Памацаўшы рукамі клейкую плястыкавую глебу, мужчына ўрэшце знайшоў тое, што яму было патрэбна. Кругляк з добра счарнелых ужо дошак закрываў люк дыямэтрам мэтра паўтара.

— Слухай, нейкім тут гаўном заваняла! — кіроўца, што пасунуўся ўсьлед за ім і цяпер стаяў трохі наводдаль, прыкрыў ніжнюю частку твару рукавом бруднай целагрэйкі.

— А тое ж, мля. Ты што, хацеў, каб тут табе гогаль-могалем ваняла?

І сапраўды, ад прыгожага, але фатальнага павароту сюжэту Атлянтыду выратавала толькі адная акалічнасьць, чамусьці праігнараваная як стваральнікамі гэтага міфа, гэтак і далейшымі ягонымі распаўсюднікамі. Можа, менавіта дзякуючы ёй гэты кантынэнт так і ня быў знойдзены ахвочымі яго адшукаць, якіх мільёны былі за ўсе тыя стагодзьдзі. Бо каму ж надта закарціць сноўдацца па бясконцых сутарэньнях менскай каналізацыі?

— Ну добра, дзякуй, што давёз, — Σ пацягнуўся ў заднюю кішэню кітайскай курткі, дзе ў яго ляжаў гаманец. — На, трымай. Па пяць баксаў у вас, так? Я “вушастымі”.

Ён адлічыў патрэбную колькасьць зашмальцаваных паперак, працягнуў іх кіроўцу, а рэшту запхнуў назад у гаманец. Трэба было яшчэ купіць для жонкі штонікі з начосам, якія ён бачыў сёньня ў ГУМе. Акурат бы хапіла.

— Ну-ць, дружышча, шчасьліва дабрацца!

Вадзіла махнуў на разьвітаньне рукой і, пакрэктваючы, палез назад у кабіну. Старэнькі матор завёўся ня зь першае спробы, і кіроўца пашкадаваў, што наогул яго прыглушыў.

…На нейкую хвілю галава Σ яшчэ раз паказалася па-над брунатнай паверхняй, але потым ногі патрапілі ў адзін з “падводных” віроў ды пайшлі ўніз, цягнучы за сабой і ўсё цела.



**Яна:** *Дзе я, там (ці гэтак мне толькі здаецца?) няма ані сьмерці, ані Ўваскрасеньня. Бясконцыя пустыя дамы; яны цацачныя, і ты ведаеш, што за зробленымі з расфарбаванай плястмасы вокнамі нічагуткі няма, але… Часам усё адно там пачуваецца самотна і… проста страшна.*

Гучыць радыё. У цацачным горадзе ёсьць ажно чатыры FM-станцыі.

**Я:** *Мне вельмі шкада, што ў гэтых намаляваных на вялізных кавалках кардону кавярнях не прадаюць сапраўднае кавы. Я крыху нават з такой нагоды разгублены. Ці трэба было ўсё гэта ствараць, каб цяпер мець настолькі банальныя клопаты?*

**Яна:** *Мой горад напханы паперай. Яна такая… зьмяклая ўжо крышачку і, здаецца, трохі падмоклая. Тут вельмі вільготна. Зусім ня той клімат, у якім я калі-кольвечы хацела б апынуцца.*

3рп6рне87а909роолж-р7??*0нкггшгш677ш кшеннг

**Яна:** *Калі мы толькі прыехалі, гэты сабачка, узьняўшы заднюю лапку, стаяў ля краю дарогі на рагу вуліц Чыпаліна і Папялушкі. Я гэта добра памятаю, бо на хвілю тады спынілася, каб яго пагладзіць, і ён ветла лізнуў мне руку. А потым… А потым ён апынуўся мэтрах так у дзесяці ад*

*таго месца, амаль што на самай плошчы. Можа, яго хтосьці туды перасунуў? Пагатоў, ён зусім лёгкі.*

**Я:** *...тады я адчуваў сябе нейкім големам, якому, па-за яго воляй, уклалі ў рот некалькі словаў — здаецца, гэта былі* “індывідуальнае адзінства пэрцэпцыі”. *Прамаўляць іх тут, на бязьлюдным беразе невялічкага азярца, ледзьве-ледзьве асьвечанага першымі праблiскамі золку, было ну як мінімум недарэчна.*

**Яна:** *І раптам у шыбіне (менавіта ў самім шкле) адчынілася... як быццам невялічкая шуфлядка, таксама празрыстая і таксама са шкла. З вакна на кухні выйшаў гномік, ён пасадзіў на маёй левай назе малюткае каўчукавае дрэўца, а потым пасікаў, і яно падрасло.*

Мы настолькі мала ведаем пра небыцьцё, што кожнага разу рызыкуем памыліцца, ужываючы гэтае слова. Адное можна сказаць напэўна — яно цалкам прыдатнае для таго, каб адкусваць вушы ў жоўценькіх парцалянавых вожыкаў, што стаяць на начным століку маёй бабулі.



Масла на патэльні пачало шкварчэць, і ён выліў на яе два яечкі, па сваіх памерах не нашмат большыя за грэцкія арэхі. У маленькім тэлевізары “Гарызонт”, што стаяў на лядоўні, нейкая цыцкастая эстрадная дзеўка сьпевамі прызнавалася ў каханьні зусім безуважнаму да ўсяго рызэншнаўцэру.

Ц зрабіў гук трохі цішэй і паглядзеў у вакно. Акурат у гэты момант фортка з грукатам расчынілася ад моцнага ветру. Ён сутаргава павёў плячыма, працяты наскрозь халодным кастрычніцкім паветрам.

— М-да, пахаладала ўжо, — сказаў Ц сам сабе. — Мусіць, і зіма блізка.

Да таго ж, яшчэ і дожджык накропваў нейкі паскудненькі, а дарэшты шэрае неба не абяцала ніякіх зьменаў да лепшага. Таму ён вырашыў сёньня ўпершыню апрануць скуранку замест звычайнага для восені цёмна-зялёнага плашчу.

Яйкі ўжо былі гатовыя, і абхапіўшы ручку брудняватай анучай, ён пацягнуў патэльню на сябе, адарваўшы яе ад запаленай фаеркі. Як на злосьць, аніякай падстаўкі пад рукой не было, і Ц прыпячатаў сваім сьняданкам згорнутую ў некалькі разоў “Спортивную панораму”.

— Нічога, у нас таксама неблагія парашуты робяць, — чамусьці падумалася яму, калі жоўты яечны ручай раптам перакрочыў шлях прыгажуням-лыжніцам, — вядома, як тканіны не шкадуюць. Хаця пры чым тут парашуты?

Хто яго ведае? Аднак трэба неяк ужо й выбірацца на працу. А, сапраўды, галоўнае не забыць. Бо ж учора так і было.

Паставіўшы зэдлік у патрэбнае месца, Ц ускараскаўся на яго і пачаў корпацца ў антрэсолях. Урэшце ён знайшоў тое, што шукаў — праўда, давялося па-хуткаму сьцерці назапашаны за апошнія дзень і ноч невялічкі слой пылу.

Адкаркаваўшы кляпан, Ц узяўся за справу, часам пазіраючы на гадзіньнік, каб раптам не завазіцца. Калі не патрапіш да прахадной роўна ў восем, бяз выкліку на кавёр да Міхалыча не абысьціся, а гэта такая рэч, што… ну яго ў дупу. І таму дужыя губы надзьмуваліся й зьдзьмуваліся не раўнуючы як сапраўдныя горны.

Вынікі ягоных стараньняў не прымусілі сябе чакаць. Неўзабаве, зь невялікімі перапынкамі, патрэбнымі дзеля таго, каб перавесьці дых, перад ім адзін за адным паўсталі гумовыя дзеці — хлопчык і дзяўчынка, першаму 9, а другой 12 гадоў.

Пацеляпаўшы іх за ранцы, Ц адправіў дзяцей у школу, наказаўшы ня браць больш шніцэляў у тамтэйшай сталоўцы (бо мяса як кот нассаў, а каштуюць даражэй за сасіску з хлебам). Пасьля гэтага ён надзьмуў жонку. Пакуль Ц апранаў свой будзённы шэранькі пінжачок ды расчэсваўся, яна пасьпела памыць за яго посуд і таксама выправілася на працу.

Перад самым сваім сыходам з дому ён надзьмуў яшчэ й маленькага сабачку — ці то балёначку, ці то гэткага… напаўтэр’ерчыка.

— Ну, Тузік, застаеўся цяпер за галоўнага. Глядзі, беражы хату! — сказаў Ц, ужо зьбіраючыся зачыніць за сабой дзьверы.



Цемра. Пяць гадзін раніцы. Нідзе.

***(жаночы голас)*** Калі па вечарох я крыху выпіваю, дык потым заўсёды плачу. Людзі гэта заўважаюць, і пакуль адзін суцяшае мяне, астатнія намагаюцца прашмыгнуць у прыбіральню, дзе я працую, не заплаціўшы. Потым яны мяняюцца месцамі, і мяне пачынае суцяшаць іншы, а той, што суцяшаў папярэдне, праскоквае ўнутар і робіць свае справы.

***(жаночы голас)*** Калі мне было год дваццаць, мяне пачала непакоіць невялічкая randaўка на самым носе. Хаця сястра й казала, што мужчынам гэта можа на'т падабацца. Я рабіла ў мястэчку кухаркай у сталоўцы, калі пазнаёмілася зь ім. Памятаю, неяк уночы мы залезьлі на дах якогась закінутага зыгурату. І тады ён адкрыў рот і вынуў адтуль такую фарфоравую вутку. Мне яна вельмі панаравілася, і я доўга сьмяялася тады.

***(мужчынскі голас)*** Маё імя Ян, я папярэднічаў прыйсьцю Збаўцы на гэтую зямлю. Пару тысячаў гадоў таму я жыў тамсама, дзе й вы. Цяпер я — гэта сьвятло, бо Бог — гэта сьвятло, а я ў Богу. Праўда-праўда. Але я па-ранейшаму жыву сярод вас, ведайце. У мяне няма свайго болю, але я адчуваю ваш боль. А randaўку на носе можна зьвесьці, ёсьць у сталіцы паліклініка такая.

***(жаночы голас)*** Пад маімі нагамі крышыўся сьнег, я бачыла, што ён быў зроблены з малюткіх шкляных капсуляў, яны, напэўна, сапсавалі мне ўсе падэшвы. Нібыта чагосьці шукаючы, я брыла ўздоўж бязьлюдных руінаў стадыёну — міжволі ўглядаючыся ў ашчэраныя твары паржаўленых скакуноў ды гімнастаў. Было трохі вусьцішна ды яшчэ… трохі мулка, але

я перажывала акурат такі стан, калі гэтага нават хацелася. Я адключыла мабільнік, каб ня быць засьпетай зьнянацку — тут, пасярод ночы, стоячы на прыцярушаным сьнегам разьбітым асфальце. Было ціха. Але раптам… гэтыя стогны, што ішлі нібыта зь нетраў. Мае зубы ўмомант сутаргава зьвяліся, і я адразу зьніякавела…

***(дзіцячы голас)*** Мне сьнілася, быццам я іду па ягоным хвасьце. У сьне дрэвы жоўценькія, лімонавы пах даносіцца з ноздраў гэтага забітага зьвера. Мне было зусім нястрашна. Але потым я прачнулася. Была ноч. З вуліцы пачулася, як грукоча трамвай. Чамусьці мае рукі зьліпліся, нібы я ўпэцкалася ў сочыва. Я паспрабавала аддзерці іх адна ад адной, але анічога не атрымалася. Тады я стала дзерці яшчэ, і раптам у мяне на руках трэснула скура, адвалілася і ўпала на дыванок каля ложку, разам зь мясам. Рукі расьцярушыліся ўшчэнт. Я хацела зварухнуцца, але не магла. Маё цела рассыпалася на вачох — як той плюшавы бобік, якога мы з мамай знайшлі на гарышчы лецішча ў калюжыне вады. Я не магла наважыцца да яго дакрануцца — бо ён быў мёртвы. А цяпер я. Я хацела заскавытаць ад болю, але не змагла. Усё расплывалася.

***(мужчынскі голас)*** Драць масла на тарачцы — гэта неэканамічна ды таксама супярэчыць пэўным агульнаісным эстэтычным нарматывам. Пагатоў, у дадзеным кантэксьце ўсё ўжо настолькі дыфузавала, што дэфрагмэнтацыя дыскурсу робіцца галоўным альхімічным заняткам учорашніх трубадураў.

***(мужчынскі голас)*** хррррпррррррррхххххррррррррпрррр ррххррхрхрхррпррррррррррпрррррррррпрррррррпррррпррхррх

хрррррххррххххрххррррррррпрррррркпрхппрпрпрпрпрпррпрп
прпрпрпрпржапрлюзірпрпрпрпррпппрррррррпрпрппрпрпррпр
ррррпрпррррпрпрррррррпррпррпррррпфарррррррррпррррпррр
*(ягоны ўладальнік сьпіць)*



— Чакай, я зараз, — сказала яна і, прыхапіўшы кайстрачку, рушыла ў прыбіральню.

Ізноў… Колькі ўжо можна… Ізноў зь цябе пачынае выцякаць гэтая дрэнь. Трэба нешта закапаць туды…

І калі ў яе зьявілася гэтая сарамлівасьць, думаў ён. Яны бавілі час у прыстойнай маленькай рэстарацыі з джазам і афіцыянтамі ў накрухмаленых кашулях, што са сваёй анахранічнай паслужлівасьцю выглядалі на актораў у экранізацыі якога раману віктарыянскіх часоў. Толькі напалову выпітая пляшка “Бардо” — як, зрэшты, і недаедзеная салата ў талерках — красамоўна сьведчылі аб тым, што вечар яшчэ далёкі да завяршэньня.

Сапраўды, як прыстойная дзяўчына, яна не магла сабе дазволіць смаркацца за сталом. Лепш ужо адысьціся куды сьлед. Ды і рукі потым варта памыць, а тое гэты пах…

Адчыніўшы дзьверы, на якіх красавала аголеная прыгажуня, яна заскочыла ўнутар, пераканалася, што не парушыць гукамі свайго носу нічый спакой, і тут жа паднесла да гэтай мілай маленькай прылады ўжо выцягненую загадзя папяровую насоўку.

Тоўсты слой сылікатнага клею імгненна прамачыў сурвэтку наскрозь. Яна ледзьве не сапсавала свой даўгі пазногаць, аддзіраючы пальцы ад зьлепленай паперы. У гэты момант ёй нібыта пачулася, як рыпяць шарніры на ейных нагах. Уключыўшы ваду і

Чуеш, нешта ламаецца?

отнага, дзеля таго, каб

галава гораду сёньня сустрэўся з прадстаўнікамі

набываючы яшчэ, вы атрымліваеце

*…здавалася, статуя складаецца адное з даўжэзных гіпсавых ног. Прынамсі, калі ляжыш на падлозе, больш анічога не відно. Голы, ён зьвіў сабе гнёздачка акурат паміж гэтых крохкіх белых канцовасьцяў, і менавіта тут, сынхранізуючы свае рухі зь нейкімі там касьмічнымі хвалямі, ён несупынна зьвіваўся ды курчыўся, намагаючыся* нешта зьмяніць. *Усё гэта мела небагата плёну — хіба што шурпатыя бэтанаваныя муры патроху пакрываліся кропелькамі поту, які сыходзіў ад ягонага даўно нямытага цела.*

*(*На гэтай скале, *сказаў Ён. Але рнавеу3ва4н3ае43н2аке 42шлак52лшак53л5рп5а-п5рапркпрпакпркпкеапкркрно8ўўд)*[2]

ухапіцца за гэты сьлізкі валун, што напаўтырчэў спасярод вады, удалося хіба з трэцяга разу. Ч ужо думаў было, працягнуўшы свае адчайныя акрабатычныя практыкаваньні, ускараскацца на яго ды стаць нагамі, каб хаця б трохі адпачыць, але як толькі ён паспрабаваў гэта зрабіць, валун рэзка падскочыў, заверашчаў і, не ўздымаючыся над вадой ні на каліва, паляцеў уздоўж яе паверхні ды неўзабаве схаваўся за даляглядам.

Толькі цяпер ён заўважыў, што прынятае ім за камень насамрэч было апранутай у мокрыя плаўкі дупай якогасьці мёртвага дзядзькі. Апошні мерна пагойдваўся сабе на невялікай глыбіні тварам долу, пакуль яго гэтак нахабна не патурбавалі. Пырскі, якія ляцелі з-пад ягоных дыстрафічных курыных крыльцаў, што карыкатурна тырчэлі паабапал набрынялага тлушчам цела, сягалі й да твару Ч, павялічваючы ягонае расчараваньне.

---

[2] … замест кутняга каменя я зноўку абраў свой заплясьнелы помнік.

…было халодна, і мама спаліла ў печцы пару манэкенаў, нават тую цётку, што казала, быццам яна цяжарная. Хату адразу напоўніла прыемнае цяпло, а верашчаньне бедакоў перакрывалі гукі старэнькага радыёпрыймача “Фатон”, па якім акурат перадавалі прагноз надвор’я.

Калі яны яшчэ не дарэшты пераўтварыліся ў попел, мама сунула  ў печку чыгунок з бульбай.

— Нельга, каб дабро прападала, — сказала яна з гэтай нагоды, пачэсваючы патыліцу.

У гэтую хвілю ты чуеш ціхенькае бэмцаньне званочкаў на шыях кароваў. З прыемнасьцю думаеш, што яны нічога не абазначаюць.



Момант вяртаньня (з гіпэртрафаванай уважлівасьцю апісаны ўсімі гамэрамі, момант, у які мы не ўсьведамляем сябе пэрсанажамі нечых кніг, але насамрэч імі зьяўляемся): што здараецца, калі ягоныя ногі перакрочваюць родны парог, а вочы прыязьліва адлюстроўваюць бляск бабілёнскіх зорак на тварах голых баб з “Плэйбою”, якія ўсьміхаюцца з налепленых на сьцяну каляндарыкаў за немаведама які год?

Хібарка рушыцца, як толькі ягонае цела апускаецца на ложак, дзе было ўбачана столькі грэшных і летуценных сноў.

imperium nihil est[3]

*(дванаццацігадовае дзяўчо што ідзе па залітай сонцам вясковай)*

imperium nihil est

*(вуліцы трымае ў руцэ збанок малака цяпер)*

imperium nihil est

*(лета мора агортвае маё распрастанае цела лагодныя)*

imperium nihil est

*(хвалі гайдаюцца ля маіх ног пасьля цырымоніі)*

imperium nihil est

*(ўзьняцьця дзяржаўнага сьцягу адбыўся ўрачысты прыём на ўсходзе)*

imperium nihil est

*(нашай краіны месьяцца тарфяныя балоты дужа)*

---

[3] “Імпэрыя — нішто” — фраза, якая сустракаецца ў шэрагу кампазыцый гурта “Current 93” ды пакліканая адлюстраваць бясплённасьць пэўнага ўнутранага досьведу яе лідэра Дэвіда Тыбета.

imperium nihil est
*(багатыя нафтай быць мастаком гэта значыць)*
imperium nihil est
*(перадусім адчуваць адказнасьць за)*
imperium nihil est
*(чуеш нешта ламаецца)*
imperium nihil est
*(драбнічкі попелу ў ейных вачах)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*
*(чуеш нешта ламаецца)*

Тое, чым ты валодаў — нішто, і тваё шчасьце, калі ў цябе атрымалася своечасова вынесьці ўласны анус з-пад развалінаў гэтага дома.

замест усяго гэтага хай будзе цішыня
Божа будзь побач са мною калі я ўрэшце прачнуся

*

Акно трохі прыадчыненае, і вецёр мякка кратае паўпразрыстыя бэзавыя фіранкі. Яна сядзіць у фатэлі, трымаючы ў правай руцэ пульт ад тэлевізара, а ў левай (выкручанай у форме сьпіралі) — манікюрную пілачку. Доўгія пальцы вянчаюць вострыя пазногци, зьлёгку падфарбаваныя лакам. Яе галава трохі ссунутая ўлева і адкінутая на сьпінку фатэлю. Рудаватыя валасы ападаюць долу, сягаючы ледзьве ня самай падлогі. Нерухомасьць.



*

Чуецца гук тэлефоннага званку. Спачатку гэта лёгкае бзыканьне, потым пранізьлівы віскат, потым праграма аўтавызначальніка прамаўляе пэўную колькасьць лічбаў. Тэлефон працягвае званіць. Вібрацыя, спароджаная гукамі зь яго дынаміку, прымушае паперу, няроўны стосік якой месьціцца непадалёк ад апарату, зьлёгку трымцець. Строгі голас аўтавызначальніка ізноў прамаўляе лічбы. Л сядзіць за сталом перад сваім кампутарам. Па экране немаведама ўжо каторы раз пракатваецца застаўка з апошняй мадэльлю матацыкла “Міцубішы”. Правая рука Л, апранутая, як і тулава, у чырвоны вэльвэтавы касьцюм, ляжыць пад сталом. На левую руку абапёртая галава Л. Вока Л выяўляе ўсе фатальныя наступствы ад сутыкненьня з такой істотай, як моль (некалькі іншых жамярыцаў таго самага віду па-ранейшаму лётаюць пад стольлю — калі вы прыглядзецеся, дык іх заўважыце). Крылцы гэтай інсэкты пакуль працягваюць варушыцца, але рух набывае ўсё больш слабы і спарадычны характар — па меры таго, як ейнае малюткае цельца ўсё глыбей і глыбей уцягваецца ў сьлізкую вадкасьць сьветла-блакітнага колеру. Тэлефон працягвае званіць.



*

Тры верхнія гузікі на ейнай блузцы расшпіленыя, і пакольні пастава яе цела градусаў на сорак нахіленая ўлева, адна зь бялявых грудак, упрыгожаная трохі ўзьнятай дагары смочкай пяшчотна-ружовага колеру, амаль цалкам даступная для сузіраньня. Тонкі прамень сонца асьвятляе гэтую карціну зьнізу, і таму аматары густоўнай эротыкі маюць яе ацаніць. Аднак агулам сцэна прыцемненая: вольнаму току сьвятла праз напаўпрычыненыя дзьверы перашкаджае паржаўлены мапед “Вихрь” без матора, што месьціцца ў гэтым склепе акурат паміж крыніцай асьвятленьня і аб’ектам нашай увагі.

Своеасаблівы калярыт убачанай вамі карціне, несумненна, надае слой пылу, які (трохі напружыўшы зрок, гэта няцяжка прыкмеціць), прыцярушыў самыя вабныя часткі цела дзяўчыны. Руплівы павучок знайшоў сабе прытулак у ейным малюткім ратку, прыадкрытым у лёгкай зьдзіўленай усьмешцы. Цягам некалькіх хвілін працы ён зьяднаў дзьве гладкія і зьлёгку вільготныя пунсовыя губкі паміж сабою.

Агульную атмасфэру дапаўняе таксама характэрны пах бульбы. Патрыёты павінны мяне зразумець.

*

Павеў вільготнага паветра ўрываецца ў не зачыненае на шпінгалет вакно. Мужчына выходзіць на ганак і запальвае. Часу прыкладна шэсьць гадзін раніцы, і сьвятло ва ўсім раёне гарыць адно ў яго майстэрні. Вуліца абсалютна пустэльная — няма ніводнага раньняга сабачніка альбо выпівохі, што вяртаўся б з гульбы ў суседнім бары.

Мужчына па-змоўніцку пасьміхаецца сам сабе і, трымаючыся найцямнейшай часткі ходніку, крадком скіроўваецца да скрыжаваньня. На рагу дома ён пераходзіць брукаваную вуліцу, спыняецца ля тытунёвага шапіку, выцягвае з кайстрачкі жаночую ручку ды, стараючыся рабіць як мага меней рухаў, запіхвае яе ў “экалягічную” сьметніцу, пераблытаўшы з прычыны сполаху аддзяленьні.

Усьцешаны тым, што яму пашчасьціла застацца незаўважаным, мужчына вяртаецца на свой ганак і выцягвае яшчэ адну цыгарэту. Працы застаецца багата, і ён пасьпее яе скончыць толькі калі ўжо зусім разьвіднее. Дзеткі, напэўна, пойдуць у ліцэй, што месьціцца ў суседнім доме, і на перапынку будуць забягаць сюды каб папаліць. Яму, ачмурэламу ад усяночных шчыраваньняў, глядзець на іх будзе ніякавата, але... Уф, самае галоўнае, што ўдалося пазбыцца! І як жа яна атрымалася лішняй?

Неба ўжо троху пасьвятлела. Мужчына выцягвае з кішэні пляшку “Крыніцы”, адкаркоўвае яе аб парэнчы ды робіць вялікі глыток. Нічога, вось скончу гэтую працу і заўтра схаджу ў цырк, думае ён. Даўно ў цырку ня быў. Пагатоў там, кажуць, новая праграма.

Мужчына дапіў пляшку і паставіў на ганак, спадзеючыся на ранішніх бамжоў. Пара было ізноў брацца за справу. Халтурка ў выглядзе прывабнай шаснаццацігадовай бляндыначкі ціхмяна чакала яго на рабочым стале. Рамонт трохі зацягнуўся, але... надзея справіцца за сёньня пакуль яшчэ ня счэзла.

Націснуўшы на ўпадзіну пупка, мужчына стаў уважліва ўглядацца ў дзявочыя вочы, прыгаворваючы нешта пра збой. Павекі аголенай прыгажуні раптам уздрыгнулі, яна прыўзьнялася на верстаку і загаварыла:

— Не, матарола — гэта адстойная слухаўка. Неяк сядзелі мы з бой-фрэндам у “МакДональдсе”, і трэба было адну “эсэмэску” кінуць зь яго мабілы, дык я пакуль з мэню разабралася, ледзьве ня ўсікалася. Увогуле, я люблю яблыкі, у нас у раёне прадаюць неблагія яблыкі бабулькі ля прыпынку. Люблю, калі пырскае сок

Калі б яе ногі не былі замацаваныя на верстаку, нябога магла б пляснуцца на бэтонную падлогу і падрапаць сваю далікатную скуру. Але, на шчасьце, майстар своечасова паклапаціўся аб мерах перасьцярогі.



— Ну, мля, толькі яшчэ не хапала мне вазьмяшчаць ушчэрб, — мужчына ахайна распластаў дзявочае цела на стале. — І дзе ж тут непаладка, га? Нібыта ж усё мае быць хакей!

*

Пераканаўшыся, што вуліца сапраўды нагэтулькі ж пустая, наколькі яна такой выглядае, мужчына прыкметна пасьмялеў. Ён ужо не пераконвае ў чымсьці спыненую ім на вузкай палосцы ходніку дзяўчынку год дванаццаці — чым яму даводзілася займацца астатнія хвілін пяць — але бессаромна пераходзіць да дзеяньняў куды больш рашучых. Спужаная да сьмерці ахвяра ў імгненьні нават не супраціўляецца; дый, зрэшты, мужчына, відаць з усяго, мае занадта моцную псыхіку, каб ейны віскат і ўмольныя крыкі "дзядзяпусіце", што неўзабаве ўсё ж пачынаюць гучаць, маглі яго знэрваваць. Ён флегматычна пазбаўляе дзяўчынку вопраткі, не зважаючы ані на ейны лямант, ані нават на тое, што малюткія ручкі цяпер ляпаюць яго па скураным паліто — ахвяра ўжо перайшла да другога этапу самаабароны, больш актыўнага, — які, зрэшты, вельмі хутка мае зьмяніцца апатыяй ад усьведамленьня безнадзейнасьці свайго становішча.

Школьны ранец з прымацаваным да яго плюшавым пакемонам ужо некалькі хвілін як валяецца на асфальце. Кітайская куртка прыносіць гвалтаўніку сякія-такія праблемы — бо маланка ў ёй заядае, і мужчыну не хапае цярплівасьці, каб яе расшпіліць. Аднак аднаго моцнага руху аказалася дастаткова, каб апранаха рассунулася на дзьве паловы — а неўзабаве й была кінутая долу, патрапіўшы на праездную частку, па якой тут ніхто ніколі ня езьдзіў. Швэдар можна было б і не здымаць, аднак гвалтаўніку, мяркуючы па ўсім, карціць цалкам агаліць дзяўчынку. І сапраўды, неўзабаве паказалася ейная бялюткая скура, па якой адразу пайшлі рэфлекторныя дрыжыкі — што,

зрэшты, магло быць абумоўлена павевам сьцюдзёнага ветру, а не якімі-кольвечы псыхічнымі рэакцыямі.

Цяпер мужчыне нічога не перашкаджае перайсьці да асноўнай часткі заплянаванай ім справы — і паваліўшы дзяўчынку на зьлёгку прысрэбраны інеем асфальт ды сьпешна расшпіліўшы рэмень з надпісам “Rifle”, што аберагаў ад спаданьня ягоныя джынсы, ён сапраўды пачынае гэта рабіць.

У гледача штоімгненна ўзьнікае прадчуваньне, нібы праз хвілю ўсё скончыцца — больш за тое, цяпер яму б гэтага нават хацелася. Аднак дзея працягваецца. У пэўны момант рухі гвалтаўніка становяцца адладжанымі, бадай мэханічнымі. Глядач корпаецца ў кішэні, урэшце знаходзіць запальнічку і неўзабаве выпускае струмень дыму, задуменна павёўшы плячыма.

*

**(дэкарацыі-1)**

**— *Ні!*, як у вас стравававаньне?**

— Ну, нішто сабе. Праўда, агурчыкі гэтыя першыя травеньскія…

**— Распавядзіце, як усё пачыналася?**

**Т.:** Ну, неяк з Д мы выйшлі з адной вечарынкі, там валіў пэрспэктыўны drum-n-base, і яшчэ, памятаю, у яго былі жоўтыя боты… Такія, прыкольныя. У той вечар мы заглынулі па адной, але нас ужо пачало адпускаць, і мы дахаты ішлі, на трамвай. Ну, і карацей кажучы, ён мне прапанаваў…

**К.:** Ад самага пачатку мы вырашылі граць прасунутую музыку ў самым модным ключы — такую, каб усе адразу юю. Дарэчы, кружэлкі я з Масквы прыводжу — прыкладам, той дыпхаус (*сёньня мне сумна*), які мы гралі на чылауце ў мінулую нядзелю. Рэальны рэйв павінен быць модным, а ў нас пакуль састарэлыя тэндэнцыі (*чаму я зрабіў так, што Яго няма побач? З маіх ноздраў сыплецца пілавіньне*). Мы граем тое, што граюць сёння ва ўсіх прасунутых месцах — трымайце руку на пульсе жыцьця.

**— Адпаведна, у вас рэальны вініл?**

**Т.:** У нас вельмі рэ(*нейкая пустэча. Я складаюся зь пяску. Маленькі ветрык, і мя)*альны вініл. Мы граем музыку для прагрэсіўнай моладзі, якая ходзіць на модныя стыльныя вечарынкі (*не зусім перастане бы*). Ды-джэі павінны працаваць для публікі і рабіць так, каб яна магла па-сапраўднаму дру ы атыац.

**— Скажыце, ці магчымае вяртаньне каліфарнійскай школы на модныя танцполы?**

**Т.:** Прагназаваць разьвіцьцё прагрэсіўнай сцэны вельмі складана — узгадайце, што даун-тэмпа раптам сталі граць у крутым піцерскім клюбе “Пігулка”. Тое самае і з дып-хаус. Мы стараемся граць яго паводле ёркскіх стандартаў. Хаця мода на каліфарнійскую школу ў Эўропе пра(*мае вусны навакольле якіх парасло ўжо шчаціньнем адлюстроўваюцца ў дзьвярах з надпісам не прислоняться мае вусны бязгучна варушацца нібы абсмоктваючы нейкую казурку бясплённа варушацца бясплённа варушацца. Бясплённа варушацца.*)йшла яшчэ месяцы чатыры таму.

**— Наколькі важна для вас быць DJ?**

**К.:** За вяртушкамі я атрымліваю сапраўдны кайф. Увогуле, калі б я быў Богам, то зрабіў бы жыцьцё падобным да вечарынкі…

**Т.:**…асабліва калі рух ідзе ў нармальным тэмпе. Таму падпарадкоўвайцеся пра(*я хацела яму сказа)*грэсіўным вібрацыям. Напрыклад, такая:

nihil-nihil-ni-hil-hil

*nihil-nihil-ni-hil-hil*

**К.:** Дзеля таго, каб *п*рацаваць за вяртушкамі, трэба трымаць руку на пульс*е* прагрэсіўных тэндэнцый. І *к*а*л*і гэта атрымаецца — вы з*а*нялі сваё *м*есц*а*. Ці, *я* бы сказаў, г*р*аць прасунутую музыку можа толькі той, для каго яна стала р*э*х*а*м ягонага ладу жыцьця. І *л*евы тут ня мае шанцаў атрымаць статус. З*ь*яўлень*н*е розных л*а*хоў у нашай індустрыі калі-небузь *с*кончыцца іх зьнікнен*ь*нем. І ўжо *ц*япер такая пэрспэктыва павінна тых мудакоў бянтэжыц*ь*.

*

Да таго моманту, калі яе бялявае, дзе-нідзе пакрытае дробнымі плямкамі родзімак цела — цела, змучанае дзесяцігадзінным сядзеньнем на дурацкіх занятках, дужа напружлівым сёньня ублыаньнем і асабліва гэтымі дурацкімі практыкаваньнямі — злучыцца ўрэшце з доўгачаканай прасьцінею, пройдзе, мусіць, хвілін пятнадцаць. Рудыя валасы, завітыя трохі на канцах (яна была супраць хіміі, але ўсе казалі, што ёй гэта вельмі пасавала), яшчэ трохі раскудлачаныя пасьля душа, краталі сваімі канцамі паверхню невялічкай палічкі ля ложка — акурат той, дзе ляжаў маленькі плястмасавы згустак тэлефона.

— Алё, — без аніякага энтузыязму выгукнула яна пасьля таго, як тэлефон выдаў некалькі незадаволеных гукаў.

— Сьвятлана? — голас быў добра знаёмы, але… Блін, ну што яму магло спатрэбіцца ў такі час?

— Як ні дзіўна, — іранічная эскапада, на жаль, не атрымалася.

— Слухай, а Коля не ў цябе?

— Яшчэ чаго не хапала.

— А я вось ніяк не магу да яго дазваніцца. Калі на мабілу, дык доўгія гудкі, а дома ён ужо з учора не зьяўляўся.

З Колем яны сёньня бачыліся. З усёй сваёй сарамлівай бессаромнасьцю ён прапанаваў паехаць разам зь ім увечары рэзаць баалу. Яна адшыла яго лёгка і нязмушана. Можа, ён і пакрыўдзіўся трохі, але ад жаданьня рэзаць баалу, падобна, не адмовіўся.

Пра гэта (апускаючы, праўда, усе падрабязнасьці), яна і паведаміла непажаданаму цяпер суразмоўцу.

— А, рэжа баалу! — зьдзівіўся той. — Не каб сябрам сказаць! А я вось ужо хваляваццa пачаў. У “Мэдсан” заехаў, там няма яго, у лазьні на Пушкінскай таксама. А дзе ён звычайна вісіць?

— Ды на рагу, каля кінатэатра “Мір”, — Сьвятлана адказвала спакойна, але трохі нецярпліва. — Там дарожны знак ёсьць, дык на ім.

— Ну ясна, можа падскочу, я на маторы.

— Добра. Давай.

Вечаровы туалет, прыпынены нечаканай размовай, быў працягнуты ў фарсіраваным тэмпе. Бо надта ўжо хацелася спаць.



*

(**Яна:** *Што застаецца?*

Сенечка ўдумліва пачэсваў сваё падбародзьдзе ды паглынаў пыл, ахайна дастаючы яго чайнай лыжкай з толькі што распакаванай плястмасавай шкляначкі — накштал тых, у якіх зазвычай прадаюць ёгурты. Вечар, субота. Гукі плястыку, якія скрабецца аб плястык. Пальцы скрабуцца аб пальцы. Ногі скрабуцца аб ногі. Сенечка безуважна назірае за гэтымі бязладнымі рухамі, да якіх ён ня мае ніякага дачыненьня.  Па тэлевізіі паказваюць “Последнйй герой”. Да вуснаў прыліплі пылінкі. Давайце адрэжам сусаніну ногу, кажа герой. За вакном быў нейкі яськагападарзпадвільні. Потым нагу яму такі адразаюць, вараць і ядуць. Сенечка кінуў пустую шклянку на падлогу. У Кульбакіных насупраць акно запалілася. Пылінка патрапіла ў нос, і захацелася чыхнуць. Тэма парадыгмы аднаўленьня ў беларускім шоў-бізнэсе другой паловы 30-ых — пачатку 40-ых

гадоў у кантэксьце кампаратыўнага аналізу ў біфуркацыйнай плюралістычнай сыстэме па-ранейшаму прыцягвае ўвагу неабыякавых дасьледчыкаў. Сёмачка глядзіць на кульбякінаву Аньку з надзеяй, што яна стане здымаць блузку, але дзеўчына проста павесілася. Сёмачка крутнуў галавой і сунуў язык у плястмасавую шклянку, стараючыся пры гэтым не адрывацца ад тэлевізара. Вялікі палец правай нагі заблізка быў ад настольнае лямпы, і таму ён трохі зьмякчэў ды ледзь прыкметна дэфармаваўся.

First Death Then Second Death
Then Third Death
Altogether Dead You Were
***Anyway***



*

Марк прыпыніўся на імгненьне перад дзьвярыма, каб паправіць гальштук — рух атрымаўся ненатуральна працяглым, — і толькі потым, цаной неймавернага ўнутранага намаганьня, націснуў на пімпачку званка. Шчоўкнуў замок, і яны павіталіся.

— Разумееш, я… трохі не чакаў… Калі ты тады пайшла…

— Ну ты ж ведаеш, што я не люблю гэты рэстаран.

Невялічкая паўза. Марк чуе, як цікаюць ходзікі на сьцяне. Часу ўжо амаль дзевяць.

— Досыць стаяць у вітальні. Можаш праходзіць. Сяргей усё адно ў начную.

Калі Марк пачуў гэтае імя, яго ажно перасмыкнула.

— Як… і ты ўсё ж вырашыла зь ім застацца.

Яна недвухсэнсоўна ўхілася ад адказу ды толькі яшчэ раз зрабіла запрашальны жэст сваёй ужо трохі зьмягчэлай, трохі пакрытай зморчынкамі, але ад гэтага ня менш прывабнай ручкай:

— Праходзь.

Яе рука робіць яшчэ адзін плаўны жэст, і пунсовы халацік напаўспадае, агаляючы бялявае цела. Цела, якое здаецца яму амаль такім маладым, як тады, у Еўпаторыі, калі яна гэткім самым няўлоўным рухам скінула зь сябе лёгкую сукню. Віталік нават зьдзівіўся таму, якую рэакцыю выклікала ў Марка гэтая звыклая для таго хлопца сцэна.

— Давай вып’ем. У мяне ёсьць пляшачка “Амбасадора”,— сказала яна, запрашаючы яго сесьці на ахайненькае плеценае крэсьліца ў гасьцёўні.

— Мы ня бачыліся стольki год…

— Так, любы, — ейная рука спрытна расшпіліла неалькі верхніх гузікаў на ягонай кашулі. — Ты пакуль налівай, а я пастаўлю якую-небудзь прыемную музыку.

— А ты амаль не зьмянілася… Толькі мы пастарэлі…

У голасе Марка па-ранейшаму адчувалася нейкая нерашучасьць. Ён адкрыў свой дыплямат і дастаў адтуль шрубакрут “Bosch”. Яна ляжала на падлозе ля канапы, бы сабака ўзьняўшы ўгару скурчаныя канцовасьці. Калі Марк стаў павольна счышчаць зь яе скуру з дапамогай наждачкі, жанчына адно паблажліва пасьміхнулася.

Сапсаваныя лялькі выкідаюць у сьметніцу.



*

**(плян спэктаклю-2)**

Стол быў ужо накрыты, і ўсе нецярпліва чакалі, калі ж яны нарэшце зьявяцца.

— Сямёныч любіць спазьняцца, ой любіць, а калі з жонкай яшчэ, дык вабшчэ, — сказала Зінаіда Віктараўна. — Дык мо па пяцьдзесят?

— Ды ну цябе, бабу дурную! — адзёрнуў яе ейны мужык, таўставаты дзядзька ў спартыўным касьцюме. — Эта ж прымета плахая. Для прылічыя можна і падаждаць.

Раптам праз прыадчыненае вакно ў хату ўляцела пяцікіляграмавая гантэля і, ткнуўшыся ў нешта мяккае, гулка бразнулася аб падлогу. Зінаіда Віктараўна тут жа ўскочыла са свайго ўслончыку і, кружляючы па пакоі, стала вохкаць ды паціраць падбітую лытку, на якой неўзабаве ўтварылася ладная гематома. Аднак увагі на гэтую цётку, вядома, ніхто не зьвяртаў.

— Во, прыехалі, ну нарэшце! — закрычаў дзядзя Коля.

— Ой малайцы мае, вой малайцы, — рохкала яго сястра Валянціна Іванаўна.

— А во і наш прадсядацель тут как тут! — гэта быў нехта яшчэ.

І сапраўды, не прайшло і хвіліны, як дзьверы адчыніліся. На парозе стаялі акурат тыя, каго так доўга чакалі.

— Землякііііі! — крыкнуў Пётр Леанідавіч, кідаючыся на шыю адразу да трох мажных кабет, якія сунуліся ў вітальню яго сустракаць.

Гэта быў мужчына год пяцідзесяці, апрануты ў даўгаполую скуранку. У адной руцэ ён трымаў дыплямат, а ў другой — бу-

кет кветак для юбіляра. Яго твар у гэтую хвілю выпраменьваў адно добразычлівасьць, хаця дасьведчаны фізыягнаміст сьцьвердзіў бы, што ўвогуле для яго характэрны іншы выраз — сур'ёзны, насуплены. Як тое і належыла для начальніка сярэдняга зьвяна.

Разам зь ім была і жонка — нізкарослая, каржакаватая кабеціна з пэргідрольнымі валасамі.

Яны кульнулі па чарачцы ды, пад'еўшы трохі шкварак з бульбай, налілі яшчэ па адной. Прыкладна пяты альбо шосты тост быў замацаваны за Пятром Сямёнавічам.

Ён годна ўзьняў сваё паважнае тулава і пацікавіўся, ці ўсе келішкі поўныя да краёў. Пытаньне, зрэшты, было рытарычным.

— Дарагія землякі! — пачаў Пётр Сямёнавіч. — У этат непрасты час, калі настаяшчасьць чалавека смотрыцца ў неба салёну, а камбайны і лепразорыі даўно пралажылі сібе пуць у сердца нашых граждан, очэнь важна панімаць…

— Дык што, мы, па-твойму, не панімаем? — вясёла перыпыніў яго зінаідзін мужык. Усе ў адзін голас на яго цыкнулі.

— Панімаем, эта праўда. Не удаўлетваронасьць, но страмленіе к уласьці, не мір ваабшчэ, но вайна, не дабрадзецель, но палната спасобнасьцей, і дабрадзецель, свабодная, панімаеш, ат маралі. Слабые і неудатчнікі далжны пагібнуць, эта первае палажэніе нашай любві к чэлавеку. І ім ішчо, ёпт, должна памоч в этам. Но, хацелась бы атмеціць, залатыя яйцы цяпер нясуць не толька ударнікі стомятровых забегаў, но такжа і "запарожцы" з секвенсарамі. І давайце вып'ем, каб шаноўны Іраклій Пятровіч не чмуразеў на зы кура мінога. Вып'ем жа, ёпт!

Ва ўсеагульным гомане прысутныя сталі чокацца адзін з адным, а калі гэтая доўгая працэдура скончылася, келішкі ўмомант былі спарожненыя.

— Я вось што хачу сказаць, Сямёныч, — сказаў дзядзя Коля, абгрызаючы курыную ножку, — Мы ж ня горшыя за другіх.

— Што ўраднее ўсякага паро

— Ну ладна, хопіць вам тут валтузіцца, — прымірэнча падміргнуў усім стрыечны брат нябожчыка Іваныч. — Давайце мо яшчэ па адной.

Паўпарожнія пляшкі адразу былі схопленыя прагнымі мазолістымі рукамі ды спарожненыя ўшчэнт, і падчас гэтай апэрацыі ніхто нават і не зьвярнуў увагі на тое, што Пётр Сямёнавіч працягвае стаяць у той самай паставе, у якой ён зусім нядаўна яшчэ прамаўляў тост.

— Эй, Пеця, — урэшце крыкнула Зінаіда Віктараўна. Адказу не было.

Жонка падышла да яго ўшчыльную і зьлёгку цюкнула кулаком па ілбе, ня выклікаўшы ў свайго мужа абсалютна ніякай рэакцыі. Астатнія неўзабаве таксама згрупаваліся вакол нерухомай постаці.

— Пэўна, устаў ён ат такой жызні, — сказала жонка, — У нево інагда такое бывает. Інспекцый шчас многа, праверкі там разные, савешчанія…

— Да, згарэў, бядак, на рабоце, — дзядзя Коля пачухаў патыліцу.

— Ладна, канчай балтаць, — нахмурыўся Іваныч,— Здымай во лучшэ кажух, давай пасмотрым, што там у нево. Ілі ладна, шчас я сам здыму.

Іваныч падышоў бліжэй, штомоцы схапіў Пятра Сямёнавіча за вушы ды пацягнуў у супрацьлеглыя бакі. Але колькі ён ні высільваўся, жаданага выніку ўсё не было.

— Ой, нейкая камсрукцыя непанятная, — сказаў урэшце Іваныч, адступіўшыся ды паціраючы рукі.

— Шчас, абаждзі, тут недзе кнопачка, — нарэшце азвалася жонка Пятра Сямёнавіча.

Яна вёртка адкінула трохі пасівелыя ўжо валасы свайго мужа, адразу знайшла патрэбнае месца ды націснула на яго вялікім пальцам.

— Асьцярожна, давай, дзяржы, мля, — скамандаваў дзядзя Коля свайму пляменьніку Валодзю, калі тулава разьехалася па баках, і правая палова старшыні калхозу пагрозьліва пахіснулася, зьбіраючыся пляснуцца на падлогу.

Пасьля таго, як абедзьве часткі абалонкі Пятра Леанідавіча былі рассунутыя ў бакі, адразу патыхнула пылам. Унутры ў гэтага чалавека быў неверагодны беспарадак. У самым нізе, адпаведным вобласьці тазу, валялася абгортка ад лёдава “Гоша” і некалькі недапалкаў. Паміж прутамі цэнтральнага каркасу якісь павучок сплёў цэлую сыстэму разнастайных карункаў.

— Ой, можна было мужа і ўбраць ужо, тожа мне жонка! — ціха, але так, каб усе пачулі, прамармытала Зінаіда Віктараўна.

Выглядала вельмі дзіўным, што гэтая простая, падобная да старой тэлеантэны канструкцыя — зь некалькімі паржаўленымі перакошанымі шпулямі і адным малюткім рэле пасярэдзіне — ўвогуле магла працаваць. Хаця ўсе прысутныя ведалі — перад іх вачыма яшчэ далёка ня самы горшы варыянт.

— Так, а каплі какія ёсьць? — спытаў Іваныч. — Ага, во і аптэчка, шчас пасмотрым. Да, можна і эці папробаваць, но вот пыль бы сначала убраць не мешала.

— Тут гдзе-та далжна быць трапка, — жонка пацягнулася да самай ніжняй з трох папярэчын і дастала аднекуль з-пад яе бруднаватую жоўтую анучу.

Іваныч схіліўся па-над каркасам ды з выглядам чараўніка стаў паліваць яго асобныя месцы лекамі. Канструкцыя адрэагавала на гэта сьвістам — ціхім і манатонным, які ня меў сваёй пэўнай крыніцы і даносіўся, падавалася, з кожнага мілімэтра сямёнавічавай плоці адначасова.

— Во, глядзі ты, работает! — дзядзя Коля задаволена пацёр рукі.

— Ладна, мужыкі, давай быстрэй, — прысьпешыла іх Зінаіда Віктараўна. — А то курачка стынет.

— Так, хлопцы, паднімай яго ўверх, — прыкрыкнуў дзядзя Коля, ківаючы галавой у бок абедзьвюх частак абалонкі, якія пяцьцю хвілінамі таму былі ахайна складзеныя жанчынамі на канапу.

Мужыкі дружна схапілі абедзьве паловы і, падбадзёрваючы саміх сябе вясёлымі прымаўкамі, сталі ссоўваць іх адна да адной. Зінаіда Віктараўна, стоячы непадалёк, камандавала імі.

Аднак не зважаючы на яе шматлікія парады, нармальна зьвесьці Пятра Сямёнавіча зь першага разу не ўдалося. Паколькі левая частка галавы сантымэтры на два вытыркалася ўперад і апынулася, да таго ж, вышэйшай за правую, было безапэляцыйна зразумела: давядзецца перарабляць.

— Так, давай апяць усе ўзялі, — раскамандавалася Зінаіда Віктараўна. — Да не, ну куда! Ты па галстуку, па галстуку сматры, штобы цветочак на нём саўпадаў.

Але вялікі чырвоны гвазьдзік на гальштуку па-ранейшаму атрымліваўся нейкім касабокім. І Зінаіда Віктараўна не паленавалася пра гэта нагадаць — чым выклікала ў свой адрас пару мацюкоў з вуснаў уласнага мужа.

Зрэшты, з трэцяга разу ўсё сышлося бадай ідэальна. Пётр Леанідавіч атрымаўся такім, нібыта ён ад пачатку быў цэльны.

— Есьць кантакт! — сказаў Іваныч, сядаючы за стол.

— Так вот, о чом это я, — церазь імгненьне ўсе пачулі голас старшыні калхозу, які, бы нічога зь ім не здаралася, працягваў распачатую спрэчку, — Састраданіе ваабшчэ праціварэчыт закону разьвіція, каторый, будзем гаварыць, есьць закон падбора. Ано паддзержвает то, что далжно пагібнуць, ано ўстаёт на зашчыту абяздоленых і асуждзёных жызьню, паддзержывая в жызьні ўсякага рода неудачнае, ано дзелает саму жызьнь мрачнаю і вазбуждаюшчаю самненіе. Вадалазы, панімаешь, ані тожа прапелеры дзержат…



*

**Яна:** *… я ня бачу сэнсу працягваць усё гэта далей.*

**Я:** *Лепш пасьпі, маё сонейка. Давай я распавяду табе на сон яшчэ адну казачку.*

**Каляднае апавяданьне №34**

Зь Дзімам яны пазнаёміліся зусім выпадкова. Ліна стаяла на тралейбусным прыпынку, чакаючы немаведама чаго — напэўна, лёгкай сакавіцкай прастуды. Крабамрэнца сёньня скончылася хвілін на дваццаць пазьней звычайнага, і таму шанцаў дабрацца дадому на гарадзкім транспарце было ня больш, чым дачакацца ўступленьня Беларусі ў НАТО.

Складанасьць свайго становішча яна ўсьвядоміла з пэўным спазьненьнем — зрэшты, не настолькі вялікім, каб яно адыгралася на ўсім ейным лёсе.

Як ні дзіўна, на яе ненавязьлівую прапанову спыніцца адгукнулася першая ж машына. У цемры ды звычайным для яе вечаровым здуменьні жанчына ня толькі не зьвярнула ўвагі на адсутнасьць таксоўкавай маркіроўкі (гэта, як вядома, ня мае значэньня — асабліва для Менску, дзе жаданьне падзарабіць уласьцівае для кожнага вадзілы), але таксама і на колер нумару, які красаваў на гэтым трохі ўпэцканым у мясцовы бруд, але ўсё ж вельмі прыстойным “пэжо”.

Хвіліна замяшальніцтва: запытылівы позірк кіроўцы спрадукаваў адно напружлівае чаканьне.

Урэшце, яна такі здолела засяродзіцца ды, згрупаваўшы ў адзін азызлы камяк усё сваё валоданьне замежнай мовай, выдаць:

— Sorry... Can you drop me...

Тут было ізноў замяшальніцтва. На шчасьце, гэты начны таксоўшчык трохі валодаў інтэрнацыянальнай расейскай.

Дзіма... Дзімам яна стала называць яго ўжо пазьней, калі яны перабраліся ў ягоны ўтульны дамок каля Кёльна. Проста, было вельмі нязвыкла менаваць такога блізкага (а блізкім ён стаў назьдзіў хутка) мужчыну гэтай клёўнскай мянушкай — Дэм'ян.

Дарэчы, апошняму, падобна, на'т падабалася быць Дзімам. Ён ня меў асаблівых ілюзій наконт іхнага "саўка", але праяўляў характэрныя для ўсіх замежнікаў сантымэнты адносна расейскай культуры. Ліне не бязь цяжкасьцяў удалося пераканаць яго ў тым, што Беларусь да яе ня мае ніякага дачыненьня. Дзякуючы ейным пэдагагічным здольнасьцям, Дзіма нават вывучыў колькі радкоў зь верша Янкі Купалы пра мужыка.

...Хто б ведаў, што мары зрэдчасу зьдзяйсьняюцца? Што яна — жанчына, якая ўжо стала бадай абыякавай да жыцьця, паколькі на сваім уласным горкім досьведзе пераканалася, што каханьне — гэта ілюзіі маленькіх саплівых дзяўчатак, а прынцы бываюць адное ў абрыдлых да ачмурэньня яшчэ ў дзяцінстве мульціках пра царэўну-жабку — бо ў жыцьці іх месцы займаюць выключна дурні-Іваны на печках, — калі-небудзь будзе спаць на гэтым мяккім ложку ў абдымках *сапраўднага мужчыны?*

Яна ніколі не забудзе тыя Каляды — першыя Каляды новага жыцьця. Вігілійны вечар, які пачаўся ў адным утульным старамодным рэстаранчыку непадалёк ад цэнтра Кёльна, дзе віно падавалі ў адмысловых гляняных збаночках, і пад "жывога" Бэтховена яно здавалася яшчэ смачнейшым, ніж было

насамрэч, скончыўся вельмі позна — скончыўся прыемнай зьнямогай, задавальненьнем усіх жаданьняў ды поўным супакаеньнем. Нараніцу яна надоўга затрымалася ў ложку — пакуль Дзіма аддаваў сваёй пакаёўцы неабходныя распараджэньні адносна сьвяточнага стала.

У залі на другім паверсе, дзе ён быў накрыты, сьвяціла сонца. Ёй было дужа нязвыкла, што ўзімку можа быць так цёпла. Гэта ж трэба, думала яна, а тут заўсёды вясна!

Дзіма быў апрануты ў новую бэзавую кашулю ад “Hugo boss”. Ліне ніколі асабліва не падабалася адзеньне гэтай фірмы (раней, зрэшты, яна магла бачыць яго толькі ў глянцавых часопісах), але дадзены яе ўзор сапраўды быў нішто сабе. Чорныя нагавіцы, пашытыя адмыслова для яе мужчыны ў адным з найлепшых парыскіх атэлье, маглі вытрымаць нават самую прыдзірлівую крытыку. Мяккія пантофлі, зробленыя з сапраўднай кракадзілавай скуры, прызначаліся адмыслова для такіх хатніх сьвятаў, якое было ў іх сёньня. На тое, каб хадзіць на працу, у Дзімы быў ня менш як тузін пар іншага абутку. Не бракавала і абутку для прыёмаў. Калі яна неяк спытала, чаму ён не апране гэтыя пантофлі на банкет з нагоды юбілею дзіцячай студыі, якую наведвала ягоная дачка ад папярэдняга шлюбу (гм, яна і сумнявацца не магла, што ў яго былі нейкія жанчыны і да яе, але… ну і што з таго?), ён дзіўнавата зірнуў ёй проста ў вочы ды сказаў, што дзеля такога выпадку яшчэ месяц таму прыдбаў у адным рымскім буціку адмысловы абутак. Ён каштаваў ніяк ня меней за 300 эўра, і Ліна, якая ўжа трохі арыентавалася ў эўрапейскіх коштах, разумела, што выкласьці іх за такую рэч — ня значыць выкінуць грошы на вецер.

Асаблівы шарм Дзіму, канешне, надаваў ягоны гальштук. Гэта быў сапраўдны твор мастацтва, які выйшаў з-пад рукі ці не найлепшага мадэльера сучаснасьці. Нічога агульнага з тымі кавалкамі каляровай тканіны, якія ёй даводзілася бачыць на шыях менскіх мужчынаў, ён, канешне ж, і блізка ня меў. Здавалася б, у ім не знайсьці ні каліва чагось экстраардынарнага, але… Гальштук быў акурат такім, якім ён і мусіў быць! Каб чырвоная палоска зрабілася хаця б трохі ярчэйшаю або каб зялёны колер заняў больш пачэснае месца ў гэтых карунках, уражаньне было б незваротна сапсаванае. Але тут ва ўсім вытрымлівалася належная мера. І Ліна, якая заўсёды вылучалася цудоўным эстэтычным густам, папросту не магла гэтага не адзначыць.

Калі яна толькі пераступіла парог гасьцёўні, дзе быў накрыты стол, ёй прывітальна падміргнулі ўсе вагеньчыкі на елцы. Ля яе — і Ліна гэта ведала… ці, дакладней, адчувала, прадбачыла, — ляжалі клапатліва абраныя Дзімам падарункі. Флякончык “Шанэлі”, прыгожы зімовы капялюшык… Гэта было акурат тое, што трэба. Асаблівую радасьць, безумоўна, выклікалі залатыя завушніцы, створаныя нібыта адмыслова для яе маленькіх вушак.

— Але, дарагая, тут яшчэ ня ўсё, што я хацеў бы табе падараваць, — пры гэтых словах Дзіма мякка ды загадкава пасьміхнуўся.

Яна з радасьцю пасьміхнулася яму ў адказ:

— Ну і што ж яшчэ ты мне хочаш падараваць, мой анёл?

— Памятаеш, ты неяк прасіла мяне аб гэтым? Але тады твая мара не была зьдзейсьненая.

Яна нічога такога не магла прыпомніць. Бо ўсе ейныя просьбы пакуль дбайна задавальняліся. За выключэньнем хіба што адной, але… Не, пра гэта лепш пакуль наогул ня думаць.

— Ну колькі можна казаць загадкамі? Адкрый жа нарэшце ўсе карты.

— Памятаеш, ты казала, як табе падабаюцца дзеці?

Няўжо?! Няўжо?!!!!!!!! Ток крыві па ейных венах быў яшчэ хутчэйшы за рух па нямецкіх аўтабанах. Няўжо?

Канешне, яна неаднаразова заводзіла зь ім такія размовы. Бо завесьці дзіцёнка, выйсьці за свайго мужчыну замуж — для яе гэта азначала тое, што яна застанецца ў раі навечна, і ўжо нішто ня здолее змусіць яго пакінуць. Але рэакцыі на яе просьбы не было ніякай, і ёй даводзілася потым доўга папракаць сябе за празьмерную настойлівасьць.

Да самага апошняга часу ейны мужчына, пры ўсёй сваёй зьнешняй спагадлівасьці да яе, нават і чуць не хацеў пра дзяцей. А калі яна ўжо думала, што… тады, яшчэ на самым пачатку, на яе гнюснай радзіме… ў той час яны сустракаліся ў паскудным гатэлі "40 год перамогі", і іх адносіны былі настолькі рамантычнымі, каб не хвалявацца пра… Калі яна сказала яму пра гэта, ён недвухсэнсоўна намякнуў, што не пашкадуе грошай на добрую клініку, дзе робяць аборты.

Але цяпер… Няўжо?

— Ты вельмі хочаш дзіця? — спытаў ён.

Ад зьбянтэжанасьці яна зусім не хавала сваёй радасьці.

— Ну так, так, даражэнькі!

— Гэтак я і думаў. І я вырашыў табе яго падараваць. На гэтыя Каляды.

З гэтымі словамі ён падсунуў да сябе вялікую пасудзіну, накрытую бліскучым нікелевым паўконусам, якая стаяла пасярэдзіне стала. Калі накрыўка была зьнятая, проста ў твар Ліне выдыхнула смачная пара.

Як толькі яна пабачыла, што знаходзіцца пад накрыўкай, ейнай радасьці ды замілаваньню проста не было межаў.

— Дзяўчынка, — ласкава сказаў Дзіма. — Давай назавем яе Брыгітай— у гонар маёй маці. Ты не пярэчыш, мілая?

— Не, — лагодна пасьміхаючыся, адказала яна.

Цяпер яе будучыня была канчаткова вырашаная! Калі раней у гушчары райскай асалоды раз-пораз усё ж пранікала маланка нейкай трывогі наконт таго, што ўсё гэта можа ня быць вечным, дык цяпер…

Дзіма наліў сваёй каханай віна і ахайна аддзяліў ад малюткай скурчанай тушкі самы далікатны кавалак, каб пакласьці ёй у талерку.



*

**Я заблытаны ў хлусьні словаў;** яна вымае з кайстрачкі зьмятыя папяровыя ружы ды ахайна выкладае іх адна за адной на трохі аблупленае белае падваконьне. Некаторыя кветкі змацаваныя паміж сабою дротам, і даводзіцца расчапляць іх, рызыкуючы параніць пальцы. Урэшце на падваконьні выбудоўваецца цэлы шэраг гэтых ружачак, там-сям заплямленых тлушчам, надта ссушаных. Зіма, надвячорак. Нічога не адбываецца.

Цягнікі ў нашых уяўленьнях: бясплотныя карлсаны лётаюць у спусьцелых пакрытых іржою вагонах; пах мазута: як быццам бы гэта рэальна

— Ды пайшоў бы ты ў жопу! — кажа вусаты мужык на трамвайным прыпынку, але дзе?

Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?

Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?
Хто выбавіць мяне ад гэтага цела сьмерці?

ля ўзьбярэжжа бруднай ракі сярод спроба дотыку твайго цела да цёплага мура каб хаця б трохі нястача любові нястача любові нястача любовісьмецьце карнавал сьмецьця мае вусны варушацца варушацца выпархваюць зашмальцаваныя паперкі чуеш нешта ламаецца згнілыя скарынкі ад дыні лятуць нібы ў вырай мае вусны варушацца брухастыя істоткі казычуць мне правую пятку

пахілены дзень кволыя рукі натыкаюцца на камяні невыносны прысмак унутры сьлізкія птушкі таўкуцца ў маіх грудзёх ды ня могуць узьляцець; нічога не застаецца

з глыбіні глічу Цябе Госпадзе

*

Анжэла прачынаецца і вядзе сына ў музэй пляўкоў. Экспанаты, вырабленыя ў свой час даўно няіснымі цяпер людзьмі, выклікаюць асаблівую цікавасьць у наведнікаў. Пляўкі ваяроў, палітыкаў, кіназорак… У адной зь незьлічоных заляў, асьветленых урачыстым нэонам, месьцяцца два пустыя футаралы.

Яны стаяць амаль у сярэдзіне падобнага да калюмбарыю стэляжу, на восьмым ці дзявятым паверсе, і адзінаццацігадоваму Паўлюку даводзіца ледзьве не падскочыць на месцы, каб угледзець, што ў футаралах папраўдзе нічога няма.

— Вось, сынку, гэта для нас,— ласкава кажа Анжэла.

— Але навошта? Я не хачу, я… — ён плача.

У адказ яна пасьміхаецца. Аднак праз які момант ейны рот пачынае ашчэрвацца, сківіцы канвульсіўна ўздрыгваюць, даўгія пальцы на выцягнутай уперад руцэ варушацца.

— Хххочаш, ххочаш, — хрыпіць яна. — Гэта лёс. Мы ж усе людзі...

Двума пальцамі, непаслухмянымі, нібы яны драцяныя, Анжэла пратыкае свой чэрап амаль ля самай патыліцы. Распрастаныя пальцы другой рукі паволі ўваходзяць у галаву па-над скроняй.

У гэтай паставе яна застывае, моўчкі назіраючы за тым, як з носу на падлогу кропае зялёная вадкасьць — нібы ў такт мэтраному, павольна, але без супыну.

Нейкі лысаваты вусач, адзін з наведнікаў гэтага неабсяжнага музэю, здолеў сагнуць яе правую руку ў локці ды, прыкладаючы сякія-такія фізычныя намаганьні, выцягуць яе трохі ўперад — каб магло падацца, нібы Анжэла аддае піянэрскі салют. Адышоўшыся ў бок, ён не без усьмешкі агледзеў плён сваёй гарэзьлівай фантазіі.

Затым мужчына вырашыў працягнуць свае экспэрымэнты. Ён выкруціў руку Анжэлы супраць яе ўласнае восі — так, каб пастава жанчыны была як мага больш ненатуральнай. Аднак матэрыял, зь якім ён працаваў, аказваецца недастаткова пругкім. Рука ламаецца ды адвальваецца, з грукатам дзёўбнуўшыся на падлогу. Невялічкая дамская кайстрачка, якую Анжэла трымала на локці, таксама падае, зь яе высыпаюцца некалькі пальчыкаў памады, касмэтычны аловак, сьвежы нумар “Камсамолкі-таўстушкі” ды іншая драбяза.

Павёўшы плячыма, мужчына працягвае свой рух уздоўж стэляжоў з рознакаляровымі пляўкамі.

Школьнікі, экскурсія якіх набліжаецца да Анжэлы ўсьлед за ім, хапаюць руку, разломваюць яе на драбнюткія кавалачкі ды пачынаюць шпурляцца імі адзін у аднаго.

— Іванова, а ну прэкраці, — крычыць настаўніца. — Так, пашыхтаваліся і…

Але неўзабаве і яна зь цікавасьцю далучаецца да забаваў сваіх вучняў.

Яны працінаюць зьнявечанае плячо іголкамі, паліваюць яго сьпіртам, падсоўваюць крэсла, становяцца на яго, спускаюць порткі і мочацца на рану — хто вышэй. Натуральны, прыродны пах сікуноў, у сынтэзе зь дзіўнай гамай пахаў хімічных, распаўсюджваецца на ўсё памяшканьне. Кагосьці ўжо ванітуе.

Паўлюк здранцьвела назірае за ўсім гэтым і думае пра новую гоначную машынку.

Адзін са школьнікаў выцягвае з кішэні няхітрую прыладу: дрот, да якога з аднога боку прымацаваны электрычны відэлец, а адваротны канец пазбаўлены ізаляцыі. Дзятва жвава

бярэцца за справу, і хутка прылада катаваньня ўжо тырчыць з прыадкрытага Анжэлінага рота, што па-ранейшаму поўніцца зеленаватай вадкасьцю — мяркуючы па ўсім, гэта адна зь недарагіх марак ачышчальніка ацэтона. Ток адразу працінае ейнае цела наскрозь.

Ёй не балюча і ня крыўдна. Яна лялька.

Анжэла прачынаецца. Гэта проста пачатак яшчэ аднаго дня без Сьвятла.



*

**Я губляюся сярод усіх гэтых вычварных дэкарацый:** яны зь Сенечкам выйшлі на шпацыр, і цяпер іх абутыя ў кеды ногі павольна перасоўваюцца па зжаўсьцьвелай траве. Чэрвеньскае сонца нясьцерпна пячэ, у гушчарах дрэваў чутныя пошчакі птушак. Але яны зь Сенечкам цудоўна разумеюць, што ўсё гэта адбываецца *не дзеля іх,* што іх у гэтым няма. Недарэчна кульгаючы, адмахваючыся ад машкары, яны сунуцца далей, стараючыся не падраць свае цэляфанавыя абгорткі аб гострыя хмызы. Яны аддзеленыя ад жаўрукоў і аддзеленыя адно ад аднога.

Недарэчна кульгаючы, яны сунуцца далей.

на дне калодзежа

ннннннннннн

на вясеньнія павадкі, яны ю

мы рождены чтоб

тое зьмярцьвеньне, калі ўсьведамляеш



сабачкі гумовыя лашчацца з намі ў бясплённых пакоях мільгаюць гірлянды зялёныя птушкі харчуюцца толькі газэтай “Известия» у бочцы драўлянай кавалак Сяргея

у цемры спрадвечнай забыты паяльнік бэтонныя гусі зьлятаюць у вырай выстава дзіцячых плякатаў у пекле

купы чорнай руды усё навокал толькі чорная руда сумракавае сьвятло руда паўсюль спасярод яе тырчыць дзіцячая ножка невялічкая жоўтая плямка спасярод чорнай руды можа яна сапраўдная або гэты бляск ёсьць прыкметай *плясм*

**Яна**: *Са зьдзівам разумею што там я мне ня страшна не не нястрашна  але неяк волка руда навокал*

сапсаваныяляльківсапсаваныяляльківтулімсяаднодаадн огадрыжымямоадноадногапапростукабняыпустэчапрабел аўзьніштожыцьнасусёнідачогаўсёнідачогасапсаваныялял ькісапсаваныяляльківі

— На жаль, гэта ўсё дужа падобна да бясплённай гульні. Цікава, ці ёсьць такая сьмерць, якая была б выратаваньнем ад яе?

— Сьмерць!?

Я ванітаваў усю ноч, і рэдкія перадыхі, якія надараліся ў гэтым працэсе, маглі быць запоўненымі хіба наведваньнем лазенкі, трымаючы ў дрыготкіх руках амаль поўную ірдзістафіялетавай блевацiны мядніцу, глядзець у сваё адлюстраваньне на дне, паставіць кіпяціцца ваду для гарбаты ў электрычным імбрыку прайсьціся да супэрмаркета на суседняй вуліцы заплаці за электрычнасьць і  тэлефон паехаць на тую зялёныя каштаны кра уп

жывёлы што ўнутры такія *жывёлінкі* з пап'ё-машэ але занадта шурпатыя праз рот яны пралазяць цяжка: гарчыць нібы ад недасьпелае хурмы

*Нічога не застаецца*
фільм скончаны
так-так
ФІЛЬМ СКОНЧАНЫ
кабзон, як сказаў бы нехта ў такім выпадку



*

Вета спыняе машыну ля знаёмага пад’езда і з дапамогай сваіх кароткіх упэўненых пальцаў лёгка спраўляецца з кодавым замком. Ліфт не працуе, і таму на чацьверты паверх ёй даводзіцца падымацца па запляванай лесьвіцы.

Званок у дзьверы. Адчыняе сам Артур. На ім блакітны джэмпэр з надпісам “Love”. Ніжняя частка адзеньня напоўніцу адсутнічае. У ягонай правай руцэ лічбавы фотаапарат, запалены экран якога сьведчыць, што Артур зусім нядаўна займаўся здымкамі — ды, мяркуючы па ўсім, акурат быў адарваны ад гэтага занятку.

— Прывітаньне, — кажа яна.

— Прывітаньне. Заходзь.

— Я гатовая. Можна распранацца?

— Не, пачакай, у мяне тут ужо ёсьць адна. Зараз я яе, а тады і з табой разьбярэмся.

Яны праходзяць у калідор. У адным зь дзьвярных праёмаў у супрацьлеглым баку кватэры паказваецца аголеная фігура. Гэта бялявая дзяўчына год васемнаццаці з прыгожым, амаль дзіцячым тварыкам, абрамлёным даўгімі валасамі. На адной зь яе акруглых грудак відаць родзінку.

— Знаёмся, гэта Сьветка. А гэта мая жонка Вета.

— Мне вельмі прыемна, — кажа Вета і шчыра пасьміхаецца.

— Пасядзі ў тым пакоі, — Артур адчыняе Веце адны зь дзьвярэй у калідоры. — Можаш пакуль паглядзець “Жаночы клюб”.

Артур загадвае Сьвеце прыняць пэўную паставу недвухсэнсоўнага характару, адыходзіць да дзьвярэй і робіць некалькі здымкаў. Потым ён здымае джэмпэр, пачэсваючы валасатае чэрава, бярэ дзяўчыну пад локаць і разам яны зьнікаюць у спальні[1].

Вета са скрыпам апускаецца на скураную канапу і ўключае тэлевізар. Яна глядзіць забаўляльную перадачу, не зьвяртаючы ніякай увагі на разьмераныя, бадай мэханічныя гукі, што даносяцца з суседняга пакою. Потым запальвае.

Вета таксама створаная паводле вобразу і падабенства Божага, і таму ёй таксама, як, напэўна, і вам, не падабаецца

[1] Яго зноў ванітуе. Яму млосна, ён інстынктыўна шукае пульт, каб пераключыць на іншую праграму. Аднак фільм працягваецца.

тое-сёе ў гэтым фільме. Аднак яна ня зрушваецца зь месца. Выраз ейнага твару не выяўляе нічога, апрача чаканьня.

Хвілін праз дваццаць гукі сьціхаюць, і неўзабаве ў вітальні запальваецца сьвятло. Сьвета зьбіраецца — у гэты момант яна акурат апранае свае малюткія чырвоныя боцікі. Чутно шаргаценьне яе плястыкавага пакунку, дзе, відаць, ляжаць пару падручнікаў па якой біямэдыцыне.

— Гэй, захлопні, калі выйдзеш, — крыкнуў ёй Артур замест разьвітаньня і, пачэсваючы сваё чэрава, скіраваўся ў пакой, дзе сядзела Вета.

Але гэта ўжо іншая сэрыя.



— Напэўна, гэта тут, — думае К, імкліва пераадольваючы апошнія мэтры, якія аддзялялі яго ад закутага ў непразрыстае шкло шматпавярховіка. Позірк хлопца спыніўся на гэтым гмаху яшчэ з аўтобуснага прыпынку — будынак моцна кантраставаў з дабітымі хрушчобамі, што ўзялі яго ў аблогу.

За дзьвярыма ў непрыступнай сталёвай будцы сядзеў нейкі фраер у скуранцы, апранутай на касьцюм-тройку. Ён прасьвідраваў К сваім строгім поглядам ды, не адводзячы вачэй, спытаў:

— А табе, патлаты, што тут патрэбна?

К трохі сумеўся і адкрыў рот, каб як мага больш рашуча патлумачыць мэту свайго прыходу. Але неўзабаве твар ахоўніка на хвілю палагаднеў — акурат у той момант, калі міма яго прабегла двухмэтровая брунэтка ў элегантным кароткім футры. Строгія позіркі з арсэналу гэтага мужчыны, мяркуючы па ўсім, прызначаліся зусім не для такіх, як яна.

— Вось бы з такой перапіхнуцца!.. — падумалася раптам К.

Але фантазіі на тэму спакушэньня даўганогай прыгажуні імгненна прыпыніліся тым самым уважлівым позіркам сэк’юрыты. Гэта быў мажны каржакаваты мужчына сярэдняга росту год трыццаці пяці. Ягоны гладка паголены твар усьцяж пакрыты драбнюткімі ямачкамі, і чырванаватае адценьне скуры робіць іх асабліва непрыемнымі з выгляду. На ўказальным пальцы мужчыны можна заўважыць татуіроўку з праткнутым відэльцам сэрцайкам[2].

— Ведаеце, гэта... на конкурс. Я па аб’яве, — мармыча К, які пасьпеў не абы як зьбянтэжыцца.

---

[2] Пазяхаючы, ён думае пра сваё. Апісальныя сцэны і дыялёгі ня вельмі яму даспадобы; праглядаючы фільмы на DVD, ён стараецца іх перамотваць.

— А, мля, маладыя таленты! — ахоўнік не па-добраму пасьміхнуўся. — Ну ды ладна, праходзь. Як імя тваё, га, патлаты? Чакай, зараз пропуск выпішу.

Тоўстыя пальцы — сэрцам дагары — няўмела сьціскаюць асадку. Рука падарожнічае па блянку пропуску, пакідаючы нейкія цьмяныя знакі. Усё гэта працягваецца досыць доўга. Напружаньне падае.

— Ну давай, валі па тым калідоры, — ахоўнік робіць нейкі няпэўны жэст квадратычнай сківіцай. — Там падымешся на дзявяты паверх і спытаеш Іваныча. Усёк?

К павольна пакрочыў праз вэстыбюль, са зьдзівам аглядаючы яго амаль люстраныя сьцены. Гэта вялікае прастакутнае памяшканьне з высокай стольлю, асьветленае шматлямпавай жырандольлю ў форме вычварнай дзесяцігаловай жамярыцы. Наўпрост пад ёй вакол уласнае восі круціцца трупік немаўляці — магчыма, нават сапраўдны. К пасьлядоўна адлюстроўваецца ў кожным зь люстэркаў. Ён не сьпяшаецца. І не хавае зьдзіўленьня.

— Вот, мля, лахоў зь дзярэўні панаехала, — нягучна сказаў ахоўнік, унурыўшыся ў сваё спідінфо.

К шпульнуў у яго выпадкова знойдзенай у кішэні лімонкай, і амбалу адарвала нагу. Усё яшчэ дзівуючыся харастсву інтэр’еру, К пашкандыбаў далей. Жалезныя дзьверы з выгравіраваным на іх нейкім няўцямным магічным знакам рассунуліся самі сабой, і К, агаломшаны, трохі прыпыніўся перад тым, як увайсьці ў гэтую шамбалу.

Зрэшты, не настолькі, каб быць сьціснутым паміж створкамі, якія адразу ж няўхільна пайшлі на збліжэньне. Праўдападобна, што ў адваротным выпадку К давялося б застацца тут назаўсёды.

Ліфт, убачаны ў невялічкім тамбуры за дзьвярыма, доўга ня слухаўся каманды, і калі ён урэшце дасягнуў дзявятага паверху, фа-

лянга ўказальнага пальцу К ажно нацёрлася ад доўгага цісканьня на разнастайныя пімпачкі. З гэтай прычыны ён нават не пасьпеў уважліва разглядзець рэклямны плякат дарагога адэкалёну.

Калі хлопец выходзіў зь ліфта, перад вачыма ўсё яшчэ быў элегантны каўбой з таго плякату, і бязрукая дзяўчына, зь якой яны ледзьве не сутыкнуліся ілбамі на пляцоўцы, ня выклікала ў яго ніякай моцнай рэакцыі.

— Вазьмі-і-і мяне, — прашаптала яна сэрыяльным голасам, наблізіўшыся ўшчыльную і правёўшы па ягонай скуранцы аголенымі грудзьмі. Але настрою ў К нешта не было.

— Прабачце, вы не падкажаце, дзе я магу знайсьці... здаецца, Іваныча? — нясьмела запытаў ён у адказ.

Але падруга яго нібы не пачула ды працягвала свае дзіўныя рухі, падобныя да няўмелых японскіх танцаў — пэўна, паводле задумы, яны павінны былі спакушаць. К пакінуў іх без увагі, і гук падзеньня цела зь лесьвіцы ён пачуў ужо за сьпіной, адышоўшыся крокаў на дзесяць.

— І дзе цяпер шукаць гэтага Іваныча? — думаў К, шыбуючы па бясконцым калідоры, паабапал каторага былі дзверы зь ерагліфічнымі шыльдачкамі. — Нават спытаць няма ў каго.

Урэшце, ён наўздагад дзёрнуў першую-лепшую дзьвярную ручку. Яна была нерухомай — як, зрэшты, і другая ды трэцяя... На супрацьлеглым канцы калідору паказалася нейкая падазроная скурчаная постаць, і К на ўсялякі выпадак стрэльнуў у яе з ручнога гранатамёту.

Чацьвёртыя дзьверы вялі ў зусім маленькі пакой трохкутнай кануісаідальнай формы, інтэр’ер якога зьдзіўляў сваёй сьціпласьцю. За сталом сядзела бабуля год сямідзесяці з хіміяй на зусім сьсьве-

лых ужо валасах. У яе руках была іголка, якой яна мэтадычнымі выверанымі рухамі пратыкала пашыхтаваныя на стале фігуркі з сала.

К спытаў яе пра Іваныча. Пасьля працяглай паўзы старая ўрэшце прыадкрыла свой абведзены ярка-чырвонай памадай рот, маючы яўны намер вымавіць пэўныя гукі:

— Ну, гэта вам трэба далей прайсьці, у сто сёмы пакой. Да канца калідора, там будзе яшчэ адна лесьвіца з купідончыкам у лётным шлеме, па ёй падыміцеся на наступны паверх і збочыце налева. Дарэчы...

Гэтае “дарэчы” засьпела К ужо ля самых дзьвярэй — сьціснула падзякаваўшы, ён быў рушыў да выйсьця. Але не спыніцца было б дужа няветліва.

— Дарэчы, вам швэдар не патрэбны, га? — спытала бабуля. — Турэцкі, з чыстай воўны.

К не пасьпеў нічога адказаць, як старая ўжо выцягнула з-пад стала вялізную клунку, даверху набітую рознымі шмоткамі. Неўзабаве і сам швэдар ляжаў на стале перад хлопцам.

— Гэта вы... бізнэсам тут трохі займаецеся? — здагадаўся ён.

— Ну натуральна. Суседка з Польшчы возіць, і мне дае на рэалізацыю. Цэны нашмат таньней, як на рынку. Вось гэты там, скажам, будзе каштаваць недзе семдзесят, а я ўсяго за сорак пяць аддам. Ну што, можа прымерыць?

— А кім вы, калі не сакрэт, працуеце? — К не знайшоў ніякага іншага спосабу зьмяніць тэму гутаркі.

І гэта праўды спрацавала. Бабуля стала распавядаць сцэнар нейкага фантастычнага трылеру, удаючыся ва ўсе яго дэталі і нават часам просячы ў К парады. Распавядала яна вельмі нудна, агульнымі

фразамі, ня надта заглыбляючыся ў сюжэт. Ды і, урэшце, трэба ж было ісьці шукаць Іваныча. Не хапала яшчэ гарбату зь ёй піць!

Але К не пасьпеў нават прадумаць плян уцёкаў, як у яго руцэ ўжо была гранёная шклянка, даверху поўная зьлёгку падсалоджаннай празрыстай вадкасьцю.

— Вось, глядзі сюды, — бабуля нахілілася над ім, даючы магчымасьць адчуць пах нейкай мікстуры, што роіўся ў ейным роце. — Гэты хлопец — у сэнсе, галоўны герой — працуе маклерам... ці брокерам, халера яго разьбяры. Зарабляе добра грошай, і ўсё такое. Ён жыве ў вялікай трохпакаёвай кватэры непадалёк ад мэтро, якую здымае за трыста баксаў... Не, ужо чатырыста, відаць, будзе.

— Думаю, усе пяцьсот, калі ля мэтро.

— У ваннай у яго вялікае люстра, кафля там, ну і гэтак далей. У вітальні вісіць прыгожы дыван...

— А якога колеру?

— Зялёныя карункі на залацістым тле. Яго хобі — боўлінг, дайвінг, кіднэпінг. Герой прачынаецца шторанак а шостай гадзіне, робіць зарадку з дапамогай велатрэнажору, голіцца, сьнедае, і скіроўваецца на працу. Звычайна ён апранае...

— Зялёны пінжак бяз гальштуку на бірузовую кашулю з блёсткамі, амаль такога самага колеру нагавіцы, боты з кракадзілавай скуры, лілёвы плашч і кашнэ?

— Так, вы маеце рацыю. Звычайна ён карыстаецца мэтро, хаця зрэдчасу не адмаўляе сябе ў задавальненьні праехацца на таксоўцы. Некалі ён меў намеры купіць машыну і нават сабраў ужо быў досыць грошай дзеля першага ўнёску, але... іспыт на правы праваліў, і пасьля гэтага займеў сапраўдны страх перад ДАІ ды ўсім, што зь ім звязана. А што адбываецца далей?

— Аднойчы, выправіўшыся на працу, ён праходзіў паўз “Хутка смачна” на тралейбусным прыпынку. Гарадскія службы акурат рамантавалі асфальт у гэтым месцы, і паколькі герой заглядзеўся на рэкляму новага тарыфу мабільнай сувязі, дык не заўважыў маленькую выбоіну. Яго нага, абутая ў дарагія боты з кракадзілавай скуры, якія выглядалі з-пад толькі што адпрасаваных нагавіцаў з блёсткамі, ледзьве не па самае калена правалілася ў рыхлы пясок. Ён ня ведаў, як выкруціцца з гэтай сытуёвіны — зьяўляцца на працу ў такім выглядзе не выпадала, а часу зайсьці дахаты ўжо не было.

— І што ж тады ён вырашыў прадпрыняць?

— А вам хіба ня ўсё адно — калі шчыра? Ягоная праблема, хай сам і разьбіраецца...

К падкрэсьлена ветліва, хаця і халодна, разьвітваецца з бабулькай ды, асьцярожна зачыніўшы дзьверы ў яе габінэт, працягвае свой рух па калідоры. Яго канца, пра які казала старая, нават не прадбачылася — як, натуральна, і лесьвіцы з купідонам. К хацеў ужо быў адчыніць яшчэ адны дзьвяры, каб перапытаць, але[3]



[3] Ён зусім занудзіўся ды выйшаў папаліць.

на паржаўленым коле ад “жыгулёў” яшчэ тлеюць рэшткі малюткага цяпельца, але няўхільнасьць халадэчы

у гэтым закінутым доме бяз даху так шмат вільгаці і цьвілі ўсё гніе

гукі яе голасу пакуль чуваць праз прыадчыненыя дзьверы але яны становяцца ўсё цішэйшымі і неўзабаве сьціхнуць зусім

з маёй падранай цэляфанавай абалонкай вольна гуляецца вецер ці чуеш ты як шабуршыць мой мокры цэляфан?

*прабач, мая ясачка, я*

Я выконваў тады галоўную ролю. Сьпярша здымкі праходзілі ў кітайскай рэстарацыі, там мы сядзелі з Н за столікам у цэнтры залі, побач з жалезным дракончыкам, і размаўлялі пра справы. “Я ведаю сабе кошт” — сказаў я, нязмушана дэманструючы сваю галівудзкую ўсьмешку. Потым мы пайшлі ў суседні стрып-бар. Я пачуваўся вельмі ўпэўнена. Мне вельмі спадабалася, як я пажартаваў пра котачак. Н доўга сьмяўся і сказаў: “Ну ты даеш!”.

ппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппп

цяпер халадэча

*Falling towers*

*Jerusalem Athens Alexandria*

*Vienna London*

*Unreal*

Вежы майго гораду руйнуюцца наўзьдзіў хутка па ягоных ходніках чуваць перагуд гэта вока: яго нішто ўжо не трымае ў вачніцы на маім заплылым твары яно падае ўнутар яно падае долу і цяпер коціцца грукоча па вуліцах гэтага няіснага места вось псэўдагатычны шпіль на гмаху крамы падае долу трушчыцца трушчыцца пераўтвараецца ў гурбы сьмецьця бэтон крышыцца ў пясок

Мае гнілыя папяровыя вантробы вывальваюцца вонкі я губляюся сярод гэтых пачварных дэкарацыяў я губляюся сярод гэтых пачварных дэкарацыяў. Мае вусны варушацца варушацца. Я губляюся сярод гэтых пачварных дэкарацыяў.

*Чуюцца кроплі вады — адзінае, што абнадзейвае.*

Зрэшты, заўтра зноў мае дублі. Мы здымаем вясёлае і нязмушанае кіно, гэткую маладзёвую камэдыю. Мы робім яе гады чатыры, мо і болей — я, Аліна і Чэсік. Мая роля бадай эпізадычная, у іх лепшыя ролі, хаця на экране мой аголены азадак зьявіцца буйным плянам разы тры, ня меней, і мне нават давязецца здымаць скальп з аднаго бамжа. Спадзяемся, стужка прынясе аўдыторыі процьму прыемных пррпхрр імгненьняў ды пераканае вас у тым, што ў жыцьці нямала сьветлых імгненьняў імгненьняў



...фвфффана[4], што ляжыць наўпрост пасярод студыі. Сьвета, якая ўвесь гэты час падтрымлівала К за руку, асьцярожна апранае на яго запэцканую чырвонай фарбай будзёнаўку.

— Калі скажуць “матор”, вы павінны схапіцца рукамі за галаву і грымнуцца на падлогу, — тлумачыць яна. — Паспрабуйце.

К хапаецца за галаву і валіцца на падлогу. Станіслаўскі, паглядзеўшы на гэтую сцэну, сказаў бы, мусіць, сваё знакамітае “Ня веру!”.

— Ну як табе, Віця? — Сьвета крычыць рэжысэру, схаванаму ў адмысловай рубцы на вышыні дзесяці мэтраў.

— Ніяк. Ладна, сыходзь з кадру, там разьбярэмся. Матор!

...К завальвае сцэну два разы запар. Сьпярша ён хапаецца за галаву і падае яшчэ да таго, як пачуліся кулямётныя стрэлы, потым, наадварот, прымушае кулямёт тарахцець занадта доўга. Бядак так зьбянтэжыўся, што ў трэці раз, атрымаўшы кулю ў галаву, ён з хвіліну нерухома стаяў, абхапіўшы сваю будзёнаўку абедзвюма рукамі, і ўжо потым пляснуўся на калені.

Усё гэта адбываецца ў лістападзе, які тым годам выдаўся надта даждлівым. Жыта ўжо даўно было ўбранае, і на полі засталася адно пожня. Дывізія чырвонага камандзіра Катаніна паволі адступае на Ўсход, ведучы адчайныя баі зь нямецкімі інтэрвэнтамі. У атрадзе, якім кіруе К, ужо амаль скончыліся патроны. Зь яго роты, што да апошняга прыкрывала адступленьне асноўных частак, засталося ўсяго чалавек дваццаць. Яны паволі, не разьбіраючы дарогі, вала-

---

[4] Вяртаючыся ў залю і спрабуючы адшукаць якое вольнае месца, ён не глядзеў на экран вельмі ўважліва, каб не спаткнуцца аб нябачную ў цемры прыступку ды ня грымнуцца долу, забясьпечыўшы .ўсіх прысутных куды цікавейшым за гэты фільмец відовішчам.

куцца па размытых дажджамі калдобінах. Адступленьне цягнецца вось ужо другі тыдзень. Яны вельмі стомленыя і галодныя.

— Эй, начальнік, кажысь, акружают, падлюкі! — крычыць раптам Ванюша, хлопец год дзевятнаццаці з-пад Разані.

К падняў галаву і ўбачыў маленькія фігуркі ў шлемах з вострымі пікамі. Схіл, куды паціху караскаўся атрад чырвонаармейцаў, літаральна кішэў імі.

— Со всэх старон аблажілі! — вохкае каўказец Ашот. — Ню, камандыр, рэшай, что дэлат будэм.

Чуюцца першыя стрэлы. К задуменна азіраецца. Вакол усё яшчэ пануе восеньская ціша — хаця ўжо трохі парушаная гукамі вайны. Вецер няўмольна гайдае самотную рабіну, што стаіць пасярод поля. У небе відно апошнюю чараду качак, якая выправіліся на поўдзень.

Перад вачыма праплывае Зоська Пяцілетава. Яе выразныя рысы твару, нібы вытачаны лепшым разьбяром іхняй вёскі стан... Яны пазнаёміліся на паседжаньні Камітэту беднаты і паабяцалі адно адному, што абавязкова пажэняцца, калі ворагі будуць разьбітыя. А ўжо на наступны дзень К прызвалі на фронт браніць сваю Радзіму ад акупантаў.

— Так, тваю маць, стоп камэра! — крычыць рэжысэр. — А ну-ка прэкраціце эту муйню! Поўная прафанацыя!

Сярод здымачнай групы адбываецца непрацяглая спрэчка, пасьля якой рэжысэр наўздагад выцягвае са стосу новы сцэнар. Неўзабаве праца распачынаецца наноў.

К апранаюць у спартовыя порткі і падрапаную скуранку ды ўзьдзябурваюць яму на галаву чырвоны брыль з надпісам “Чыкага булс”. Цяпер ён — дробны рэкецір, які закахаўся ў каханку вара ў законе, якая насамрэч зьяўляецца лесьбіянкай. Ён стаіць ля ўваходу ў прэстыжную саўну, трымаючы ў руцэ букет кветак.

Жанчына ў футры, да якога, па задуме яго стваральнікаў, абавязкова павінен дапасоўвацца эпітэт “шыкоўнае”, выходзіць на ганак першай, і гэта дае К доўгачаканы шанец. Але зрабіўшы ўсяго пару крокаў, яна спыняецца, каб прыпаліць доўгую цыгарэту. А ейны хахаль лёгкі на ўспамін.

Яны нясьпешна дэфілююць да стаянкі, пра штосьці перамаўляючыся. К пасьпявае схавацца ўнутар вялізнага рэклямнага шчыта, і гэта дазваляе яму застацца незаўважаным. Ён чакае, прысмактаўшыся сваім позіркам да каханай.

— Гэй, ну што ты нібыта драўляны? — крычыць у мэгафон рэжысэр. — Ты ж на бабу глядзіш, цябе ажно калбасіць павінна. Згадай якія соплі са свайго жыцьця, калі на тое пайшло.

К напружыўся і стаў згадваць. Як назло, нічога прыдатнага ў галаву не прыходзіла. Хаця... Неяк у яго папраўдзе здарылася падобная гісторыя — з аднаклясьніцай Зінай, якая пасьля школы паехала ў сталіцу і выйшла замуж за ды-джэя “Рокса”. Тады К адчуваў сябе ну проста Бэльмандо з таго фільму. Але Зінка яго тупа паслала.

І вось, жанчына ў футры праходзіць акурат паўз яго. Яшчэ хвіля, і каханая праміне — праміне, магчыма, назаўсёды.

К доўга ня можа рашыцца. Страх перад амбаламі-ахоўнікамі, якія ідуць паабапал яе, на сэкунду перамагае магутнае пачуцьцё. Але ўрэшце...

— Каценька! Каханая! — крычыць ён, кідаючыся ёй напярэймы.

Ад нечаканасьці жанчыну ажно перасмыкнула. Ахоўнікі разгублена застылі на месцы.

— Віця! Хлапчынё ты маё! — яна падае ў абдымкі да К і пачынае што ёсьць моцы раўсьці. — Пакінь ты мяне, грэшную, пакінь...

— Во, нармальная пайшла дастаеўшчына! — гучна кажа рэжысэр, запіхваючы ў рот стымаролíну. — Давайце далей калбасьце.

Каця падае на зямлю і пачынае біцца ў гістэрыцы, ладна падмяўшы пад сябе і К, які важыў разы ў паўтара менш за яе. Вор у законе неахвотна абарочваецца і загадвае ахоўнікам разабрацца з нахабам[5].

Дзеля гэтага ім трэба хаця б трохі суняць ашалелую кабету — бо пакуль яна служыць для К надзейнай заслонай. Але як толькі яе далікатна паспрабавалі адцягнуць, Каця ўстае на рукі і раптоўным ударам даўгіх абцасаў робіць абодвух ахоўнікаў аднавокімі. Яны нэўтралізаваныя, і таму выходзяць з кадра ды запальваюць.

— Каця! — хрыпіць яе хахаль. — Кацяяяя!! Паехалі са мной.

— Не! — крычыць кабета, ускокваючы на ногі. — Ня будзе болей табе мяне! Заблытаў ты мяне ў сваю сетку, душу маю грэшную купіць хацеў. Даволі!

К агаломшана назірае за гэтай сцэнай збоку, спуджана прыўзьняўшыся на карачкі.

Бандзюга асядае на калені і таксама пачынае плакаць. Дакладней, у яго атрымліваецца нейкі глухі роў. У месіве чутныя словы “ды я ж табе ўсё зрабіў”, “ды я ж цябе, сьцерву, у Парыжы чыста апрануў”, “ды ты мяне на нейкага сапляка”...[6] Словы прамаўляюцца вельмі хутка, без усялякіх пауз.

З Кацяй здараецца чарговы прыступ гістэрыі, падчас якога яна крычыць, што за брудныя баксы не прадаецца. Потым, у падмацаваньне сваіх словаў, кабета зьдзірае зь сябе цяжэзнае футра. Усьлед ляціць на сьнег элегантны касьцюм, выяўляючы прыгожае бікіні, што пакрывае амаль плэйбоеўскія формы.

---

[5] Ну нарэшце, думае ён. Зараз пачнецца махалава!

[6] Яго таксама схаланула гэтая вельмі эмацыйная сцэна. Ён нават адклаў на час убок пакуначак чыпсаў.

Гэтаксама хутка пазбавіўшыся абутку, Каця становіцца басанож на сьнег і пачынае рабіць фізкультпрактыкаваньні: р-раз, два, тры, чатыры... Вор рэфлексійна ўздрыгвае сынхронна зь ёю. К на карачках падпоўзае да яе ды сіліцца абняць за ногі.

— Добра, добра ідзе, давайце болей імпэту, — прамаўляючы ў свой мацюгальнік, рэжысэр задаволена паціраў рукі, — А гэта яшчэ што за муйня? Які мудзіла сьвятло ўключыў? Хто дазволіў?

— Я-а-а да-азволіў! — гучны голас сыходзіў аднекуль згары, і гэта спараджала дадатковы акустычны эфэкт..

— Вадзім Пятровіч... — голас рэжысэра ўмомант асеў на дно акіяну.

— А ты, Карвухін, ізноў за старое, так? — зларадстваваў дзесь бясплотны голас — Ізноўку халтуру гоніш на чужой тэхніцы!?

— Вадзім Пятровіч, я.... — мармытаў ашалелы ад страху рэжысэр. — Я... зараз усё патлумачу...

— Тлумачэньняў у вас ніхто ня просіць, — сказаў бы адрэзаў голас. — Давай, Дзяніс.

Кацін парык падае долу. Аднаго рэзкага руху гэтай істоце аказваецца дастаткова, каб зьдзерці элястычную гумовую маску, якая сваім колерам і фактурай амаль не адрозьнівалася ад натуральнай скуры. Твар, які хаваўся пад ёй, падаўся К аднекуль знаёмым.

К зьніякавеў ад зьдзіўленьня. Перад ім стаяў той самы сэк’юрыты, якому зусім нядаўна давялося зьмяніць нагу на пратэз. Зрэшты, ён выглядаў хлопцам, задаволеным жыцьцём.

А тое я ўжо зьдзівіўся, чаму ў гэтай кралі такія моцныя абдымкі, падумаў К.

Не зьвяртаючы на яго ніякай увагі, ахоўнік спрытна падымаецца ў рэжысэрскую рубку. Неўзабаве адтуль чуецца страшэнны лямант

і заклік аб літасьці, а потым — гук падзеньня цела. Потым ахоўнік ізноў апынаецца ўнізе, хапае Сьветку за валасы ды некуды яе валачэ, не зважаючы на млявы супраціў.

К карыстае зручнай нагодай, каб ізноў схавацца паміж нэонавых панэляў рэклямнага шчыта. Як неўзабаве выявілася, схованка была абраная вельмі ўдала — неўзабаве адбываецца зьмена дэкарацый, і шчыт засоўваюць кудысьці ўглыб пляцоўкі.

Колькі хвілінаў вакол усё цёмна. Аднекуль здалёк чуюцца гукі чыіхсьці гулкіх крокаў і нясьпешных размоваў. У К неяк самі сабой заплюшчваюцца вочы — у электрычцы ён толкам ня выспаўся. К бачыць сон. Яму сьняцца гонкі “Формула 1”. Карцінка мала адрозніваецца ад таго, што зазвычай паказваюць па “Eurosport”. Нудны голас камэнтатара прамаўляе нейкія імёны ды лічбы на незразумелай для К мове.

К ізноў ідзе па тым самым (альбо вельмі падобным да яго) калідоры, паабапал якога аднолькавыя дзьверы зь няўцямнымі надпісамі. Раптам нейкае драбноцьце на ідэальна вымытай падлозе прыцягвае яго ўвагу. Да гэтай кропачкі застаецца ўсяго два-тры крокі. К нахіляецца. У ягоных пальцах апынаецца пажухлы чалавечы палец, пазногаць якога пакрыты бэзавым лакам з чырвонымі крапінкамі. Відаць, кабета, якой ён калісь прыналежыў, ня так даўно рабіла манікюр. К, трохі павагаўшыся, кладзе палец сабе ў кішэню — на ўсялякі выпадак.

Цяпер ён толкам ня ведае, куды яму ісьці, а спытаць тут зусім няма ў каго. У гэтай частцы калідору сьцены роўныя, і нічога, падобнага да дзьвярэй, у іх не праглядаецца. Глухі калідор цягнецца вельмі доўга, некалькі соцень мэтраў, паварот за паваротам.

К вельмі хоча паліць, але ён баіцца рабіць гэта ў недазволеным месцы — хаця за апошнія дваццаць хвілін не сустрэў тут

ніводнай душы. Урэшце, хлопец не вытрымлівае ды, па змоўніцку азіраючыся, выцягвае пачак “Гродна”. Зрабіўшы колькі прагных зацяжак, ён кідае бычок на падлогу і адразу прысьпешвае хаду.

“Нічога, вось возьмуць мяне ў кіно здымац

Пакой, у якім два карлікі ў белых сьліняўчыках пяшчотна глядзяць адзін на аднаго. Дзяўчына бярэ бэнзапілу і павольна падыходзіць да Глебіна. Дагары ўзьлятае напаўразложаны труп асьлятка, да якога прымацаваныя паветраныя шарыкі[7].



[7] Мяркуючы па тым, што з будкі кінамэханіка чуваць сьмех, там здарылася нейкая непаладка. Ёй наступствуюць некалькі хвілінаў цемры і мата.

Вечар. Па тэлевізары ідзе баявік, за вокнамі дождж.

Мая плоць сьпявае для мяне як Майкл Джэксан.

Якія кветкі вырастуць на гэтым рыхлым гародзе?

І колькі соку высмакча зь мяне тое ванітнае хараство?

Мая плоць сьпявае для мяне.

Яна цьвіце, мяняючы свой колер бы брусэльская капуста.

Яна пахне, яна фіялетавая, а потым бірузовая і нечакана індыга.

Мая плоць паказвае мне мульцікі, і я сьмяюся.

Яна расьце бы ракавая пухліна яе пяшчотныя рукі пахнуць абрыкосам яна абдымае мяне і цалуе ў шчочку.



колькі каштуе цэляфан з маіх вачэй?

ты плачаш ты памерла ты адчуваеш нібы ўжо пасьля ўсяго

нястача любові

чаму?

мае сасуды лопаюцца зь мяне навонкі пырскае сьмерць бы вадкі клейкі тлушч паволі цэдзіцца сплывае долу брудзіць усё вакол

колькі сьмерці я маю ў сабе?

Хто вызваліць мяне ад гэтага цела сьмерці?

Я засынаю і бачу ўсе свае цацкі, прыклееныя да мяне скотчам. Я падскокваю на месцы, нібы апараная курыца. Мае цацкі мне перашкаджаюць, цяруцца паміж ног; яны такія нягеглыя.

Хто вызваліць мяне ад гэтага цела сьмерці?

sicksicksick



За наступным паваротам К бачыць бальзакаўскага ўзросту жанчыну, якая папраўляе перад люстэркам свой элегантны скураны станік. К пы[8] можна зна купі

— Цираўдаэфэкт неаоны н аазаура н рэтаыі якую шояуу еьм ап добы.

Жанчына гучна сьмяецца, дэманструючы плястмасавыя галівудзкія зубы. Яна просіць К паднесьці да дзьвярэй сваю пяцімэтровай даўжыні мантыю: маўляў, сёньня тут яшчэ не прыбіралі, а бруду за дзень пананосілі цэлыя тоны.

Аргумэнтацыя ёю была абраная няўдалая — на падлозе не знайсьці ані пылінкі, — але К не пярэчыць. Яны далей ідуць па калідоры— паўз зачыненыя дзьверы; большасьць зь іх, тлумачыць жанчына, несапраўдныя, і калі фарба, якой іх намалявалі на сьцяне, блякне ад старасьці, у гэтым можна пераканацца.

Ён пытае, ці доўга ім яшчэ ісьці. Яму вельмі хацелася б сёньня ўсё ж патрапіць да Іваныча. Пагатоў, К прыйшоў сюды па пэўнай справе, і апошняга яму ня варта забываць — у якія б сытуёвіны ён ні трапляў.

Але ж яму цяжка наважыцца разьвітацца ды пайсьці сваім шляхам — гэтая кабеціна, відавочна, прызвычаілася, каб ёй падпарадкоўваліся.

Мусіць, яна тут свой чалавек, падумаў К. І гэта значыць, што ў яе можна распытаць пра Іваныча.

— Ня варта грэбаваць ніводнай магчымасьцю, — кажа сабе К. — Пагатоў калі ад гэтага залежыць уся твая кар’ера.

---

[8] — Алё... Не, я кіно гляжу... Ды так, хіба месцамі... Грузілава нейкае... Давай вырульвай... Буёў сто! Хутчэй давай... Не, я “тройку” не люблю, вазьмі лепш “Баброва”. Ну давай, усё.

— Ён таленавіты хлапчук, — нетаропка прамовіла незнаёмка, напаўазірнуўшыся да К. — Нядаўна яго нават перавялі ў сэкцыю 13Б. А вы ўжо нешта пасьпелі сыграць? Цікава, якое вашае ўлюбёнае амплюа.

Апошняе слова ў яе выкананьні было падобным да журчаньня вады з прарванай іржавай трубы ў іх местачковым мікрараёне. Пачуўшы пытаньне, К, натуральна, сумеўся. Зрэшты, падобна, такая ягоная рэакцыя была цалкам чаканай для суразмоўніцы.

— Я... Ну так, трошкі паспрабаваў сябе ў невялічкім тэатры. Граў Ленскага, — хлусіў ён.

— Ну, Ленскі — гэта гаўно, малады чалавек, — жанчына павярнулася да яго перад тым, як паставіць нагу на эскалятар, стылізаваны пад гіганцкую мясарэзку. — Асьцярожна, не адставайце.

Падняўшыся на наступны паверх, яны ўвайшлі ў маленькія жалезныя дзьверы, адчыніць якія можна было адно з дапамогай адмысловага коду. Ахоўнік, які сядзеў за імі, ветла падміргнуў спадарожніцы К ды падазрона акінуў позіркам яго самога.

— Вы разумееце, у чым сэнс нашай прафэсіі? — раптам запытала кабета. — Вы разумееце, якое крэда мусіць мець кожны, хто ёю займаецца?

К разгублена павёў плячыма. Яго гэтая філязофія ўжо нахер забэмбала.

— Бяз гэтага вам ніколі ня стаць сапраўдным майстрам сваёй справы. Вось, глядзіце.

Яна павярнула адну з ручак на зьмешчаным пасярод пакою пульце кіраваньня, і на К ўмомант высалапіліся пару соцень вачэй. Нейкія істоты месьціліся ў насьценных стэляжах, яшчэ імгненьне таму прычыненых жалезнымі засаўкамі.

Жанчына хутка агаліла свае ненатуральна вялікія грудзі ды па чарзе пачала карміць гэтых пачварак. Яны ад радасьці падскоквалі на сваіх курыных лапках ды лізалі цыцкі языкамі, што высоўваліся з абсалютна чалавечых галоваў.

К стала сумна. Ён націснуў на старт, і яго гоначная машына ўмомант сарвалася зь месца, пакінуўшы нягеглай настаўніцы адно слуп дарожнага пылу.

К ізноў ідзе па лябірынце калідораў. Насустрач яму бяжыць маленькі і вельмі мілы сабачка. Хлопец нават пашкадаваў, што ў яго не было з сабою кавалачка чагось смачнага, але калі зьвярок ужо зусім да яго наблізіўся, ён раптам рассыпаўся ў прысак. Потым да[9].



[9] Апрача яго, гледачоў у зале болей не засталося, і кінамэханік вырашае скончыць сэанс раней часу, каб пасьпець да закрыцьця ў краму па шпікачкі "Апэтытныя", пра якія ён марыў сёньня з самай раніцы.

Ён заплюшчвае вочы, адчуваючы, як стары армянскі каньяк паволі пранікае ў ягонае нутро, прыемна апякаючы дзёсны.

Ён адзін. *Мары-на, паслухай!*

На восем паверхаў уніз, на два ўгару, на тры гектары ўправа ад галоўнага ўваходу і аж да зялёнага паркана ўлева, узад на лапік, дзе разьмешчаны хай сабе ўжо састарэлы, але збольшага спраўны аўтапарк, раскінулася ягонае валадарства, кажа ён (*бачыш Марына*). Там ёсьць амаль усё на сьвеце — і паветраныя шары, і джунглі, і безгаловыя пігмеі, і палацы прэзыдэнтаў, і аднаполае каханьне, і лімузыны, і сямейнае шчасьце, і здаровыя зубы, і басэйны з пальмамі — дый ці мала што яшчэ?

Зрэшты, калі чаго й няма, можна даць адпаведнае распараджэньне Рэгіне Бранiславаўне або наўпрост манцёру Лісаву. Збацаць усё, што заўгодна, для іх не праблема, хаця бюджэтных сродкаў апошнім часам стала моцна бракаваць на добрыя матэрыялы, і кардон даводзіцца купляць брунатны, найтаньнейшы.

З рота Ваніматава цурчыць струменьчык крыві. Яго галава зьвісае з прыступкі подыўму, на якім месьціцца дырэктарскі стол. Ніхто так і не прыйшоў, каб прыбраць у габінэце, і таму цела гэтага амбіцыйнага хітруна застанецца тут, мусіць, надоўга.

*Чуеш Марына во так во мы яшчэ*

Вецер прарываецца скрозь разьбітую шыбіну ў цёмным калідоры. Каска на галаве амэрыканскага дэсантніка, зробленай з пап’е-машэ, гулка брынчыць, калі падчас свайго броўнаўскага руху па абдзёртай дывановай дарожцы яна на-

тыркаецца на алюміній згрувашчаных ля дзьвярэй у мантажную сярэднявечных дасьпехаў. *Марына хадзі да мяне выгіны твайго цела і ладныя формы хачу*

Ён куляе яшчэ келішак, адчыняе ў сваім габінэце фрамугу і крычыць:

— Марына! Марына! Марына! Марына!

І хаця ўжо вельмі позна, ён ведае, што наўрад ці парушыць чый-кольвечы сон.

Сьпяць і мышкі і стрыжы, сьпяць машыны ў гаражы, сьпяць трохвокія монстры, сьпяць супэрмэны і сэкс-сымбалі нацыі, сьпіць, падклаўшы пад галаву ватоўку, Біл Гейтс, і тая заўсёды шчасьлівая бляндыначка, і бялявы хлопчык, які верыць у свой жыцьцёвы посьпех, і лейтэнант Сябровін, і

Старэчыя пальцы спарадычна кратаюць то адзін прадмет, то другі з тых, што ляжаць на журнальным століку — акуляры, мабільнік, калькулятар, альбом для візытовак, ізноў акуляры. Скура фалянгаў адчувае, як сэнс паволі, але несупынна, пакідае гэтыя рэчы, як іхняя *чалавечнасьць* няўхільна зьнікае, і яны становяцца чужымі. Ён ведае, што такое адчуджэньне спазнаюць і самі ягоныя пальцы — раней здатныя як да рашучых жэстаў, гэтак і да легкадумнае вёрткасьці, ягоныя ногі, упэўненыя крокі якіх былі чутныя ва ўсім будынку, язык, вушы...

Фільм будзе скончаны — незалежна ад таго, якую ролю ты ў ім выконваў.

Хутка, відаць, давядзецца прасіць жабрака Лазара аб невялічкай паслузе — хаця наўрад ці той дасьць рады дапамагчы[10].

---

[10] Гл. Лк. 16, 19-31.

гэтыя белыя ружовашчокія чарвячкі гнездавалі ў яго ўнутры, часам трапляючы вонкі разам зь ягонымі сьлязьмі і сьлюной. Малюткія стварэньні, замураваныя ў кропельках-абалонках, што раз-пораз выпадалі зь яго і застывалі на белай паверхні стала. Ён адчуваў, як унутры яны шкрабуцца праз яго, уяўляючы сваё сэрца спрэс аблепленым гэтымі неспакойнымі істотамі. Сэрца ў ячэйках і дзюрачках, як, зрэшты, і ныркі напэўна. Мозгі таксама ў дзюрачках, але што ўжо тут з гэтым паробіш?

Самы час для мяне распачынаць свой аповед. Цяпер мне, вядома, хацелася б, каб наогул не было пра што гаварыць, але... На стале акурат перада мной ляжыць від на жыхарства ў Нью-Бабілёне[1] — тэрмін дзеяньня якога, дарэчы, яшчэ ня скончыўся, — і гэта безапэляцыйна сьведчыць пра адваротнае.



---

[1] Турыстычныя фірмы, якія, пабачыўшы анонс публікацыі нашых мэмуараў у друку, ужо сталі распрацоўваць новы маршрут падарожжаў, напэўна будуць моцна расчараваныя, даведаўшыся, што беларускае літаратуразнаўства пакуль так і ня здолела адказаць на самае актуальнае для ўсіх нас пытаньне і вызначыць месцазнаходжаньне апісанага ніжэй гораду, пабываць у якім, відаць, знойдзецца нямала ахвочых.

Зрэшты, як сьведчыць легенда, самому аўтару тэкста належыць такое выслоўе: *«Нью-Бабілён можа знаходзіцца толькі ўнутры нас, і зьехаць адтуль — гэта ў нечым перамагчы сябе»*. — **Заўв. выдаўца.**

## I. МЯРЗОТА І ЗАПУСЬЦЕНЬНЕ

### 1.

Мы патрапілі ў гэты горад увечары, калі сонца ўжо зайшло і на вуліцах паўсюдна палалі вогнішчы ды фэервэркі, рассейваючы шараватыя прыцемкі. Здавалася, нібы створаны зь серы туман паглынуў места. Было лета — такое нясьцерпнае і бясконцае, што ад яго карцела кудысьці схавацца. Нашыя вэрблюды дужа стаміліся ад доўгай дарогі праз пустэльню, таму мы зножыліся і, пакінуўшы іх у нейкага шынкара, пайшлі блукаць па зусім не знаёмым тады яшчэ для нас месьце.

І цяпер нібыта з танюткага льду перада мною вымалёўваюцца абрысы Нью-Бабілёну. Вялікія замкавыя вежы, шыкоўныя крамы і бажніцы невядомых багоў, упрыгожаныя залатым нэонам рэклямы. Яшчэ хвіля — і чуюцца гукі тысячаў труб. Места літаральна поўнілася імі, і часам здавалася, нібы яны пераўтвараюцца ў адзіны нясьцерпны шум у вушах магутнасьцю ў сотні дэцыбэлаў.

Тады мы яшчэ не прызвычаіліся да нашэньня амулету шчасьця[2], і той водар прэласьці і падгарэлага мяса, што лунаў па-над гарадзкімі вуліцамі, меў незразумелую пакуль для нас прыроду. Чамусьці ён нават зьвязваўся намі з процьмай тушак дохлых катоў, разложаных, зьмяшаных з брудам і цьвільлю, пераўтвораных у цьвіль, што яшчэ пакуль мела пэўныя абрысы. Як растлумачыў наш гід (мы нават і самі не заўважылі, як

---

[2] Амулет нясьцерпнага шчасьця (АНШ) — маленькі генэратар энэргіі, што выпрацоўвае ток напругай у 220W, які па нормах мясцовага звычаёвага права, мусяць насціць на правай руцэ бы гадзіньнік жыхары Нью-Бабілёна, а таксама турысты.

той ветлівы незнаёмец далучыўся да нашай кампаніі, з зусім няўцямнай для нас карысьлівай мэтай), жыхары гораду перакананыя ў тым, што гэтыя цельцы прыносяць ім шчасьце, і таму пакідаюць іх у самых ганаровых кутах свайго дому — там, дзе некалі віселі абразы.

Да ўсяго, быў яшчэ і пах нейкіх кветак. Іх тут навучыліся рабіць амаль такімі пахуткімі, як парфума.

На скрыжаваньні, прытуліўшыся да газэтнага шапіку, мірна паміраў якісьці савецкі ваеннапалонны — адзін з тых, каго тутэйшыя навукоўцы выкарысталі для вопытаў па вырошчваньні сухапутных піраній. Амаль поўная адсутнасьць скуры на гэтым чалавеку рабіла яго падобным да героя мультсэрыялу пра тэлепузікаў. Бо мяса ў нас у людзей, як вядома, чырвонае.

Я згадаў, што ў мяне скончыліся цыгарэты, і мы прыпыніліся каля шапіка. Мужчына, які купляў перад намі, надзіва доўга выбіраў прэзэрватыў, правяраючы вастрыню танюткай дзесяцісантымэтровай іголкі. Амаль нябачная нават зблізку, яна, відаць, павінна была апраўдваць дзіўнаватую для такой прадукцыі назву — «Сюрпрызы каханьня». Тапаліны пух кружляў у паветры — тут ён быў нейкі надта ўжо невыносны.

Раптам побач з ваеннапалонным спыніўся мікраўтобус, і адтуль выскачылі некалькі вясёлых хлопцаў, адзін зь якіх трымаў у руцэ відэакамэру, а іншыя вокаймгненна расставілі асьвятляльнае абсталяваньне.

Як распавёў наш добраахвотны гід, дзяржава была настолькі літасьцівая да бедака, што не адмовіла ў выкананьні яго апошняй просьбы і задаволіла ўласьцівыя для ягонага цяперашняга стану душэўныя памкненьні. Для гэтага ў патрэбны час

і ў патрэбнае месца — тое, адкуль ён меўся пайсьці іншым, ніж мы, шляхам, — была накіраваная здымачная група разам зь вядучым папулярнай тэлепраграмы. Як удакладніў гід, перадсьмяротнае інтэрвію тут лічыцца неад’емным атрыбутам шчасьлівага скону.

— Ну як, вам не халодна? — заразьліва пасьміхаючыся, спытаў вядучы. — Рыбкі ня какаюць?

Твар ваеннапалоннага ажно расплыўся ў задаволенай усьмешцы:

— Ой, дзеткі, вы ж толькі глядзіце, каб капустка ў палях не папрэла.

— Ф Їв®у Їа згубп бпа®¤ ®зл, Ўг¤¦ л Ґ©Єх? — запытаў добразычлівы хлопец.

— Ґ§а §г-¬Ґ«л¬ инЇв ¬. џ в Єб ¬ п бЇ « . фехп бЄалў у«Ґлп иЇх«м, — гэтак жа дабрадушна адказаў дзядзька.

(Ягоныя вочы, ягоныя страшныя вочы, поўныя яшчэ больш пакутлівай за любыя пакуты невядомасьці. Пекла, дзе тваё джала? Ды вось тут.

Трапіць у аналы гісторыі ды застацца ў памяці, застацца хоць дзесьці — гэта тое самае, што трапіць у рай, калі ня верыш у Бога. Быць зафіксаваным на якім-кольвечы носьбіце інфармацыі, пакінуць па сабе памяць. Застацца.)



## 3

Бліжэй да ночы людзей на вуліцах значна паболела, і наш гід зазначыў, што, відаць, гэта выклікана нейкім чарговым гарадзкім сьвятам, якімі тут сканчаўся ці ня кожны нават працоўны дзень .

Людзі сноўдалі туды-сюды, часам спыняючыся каля піўных шапікаў, каб трохі падзаправіцца. Міма нас прайшлі з паўтары сотні прывабных дзяўчат, апранутых у неверагодна празрыстыя сукенкі, якія рабілі іхнія гнуткія і сакавітыя целы даступнымі для сузіраньня ўсімі цікаўнымі. Яны трымалі ў руках арфы і, напэўна, рыхтаваліся запоўніць горад чароўнай музыкай.

Неўзабаве аркестр размясьціўся на адмысловым памосьце. Рэжысэр сьвята вельмі доўга расстаўляў дзяўчат па сваіх месцах, і падрыхтоўка скончылася хіба толькі праз гадзіну.

— Такім чынам, апошнія моманты перад гэтым… Перад гэтым самым неверагодным у жыцьці чалавецтва сьвятам… — завёўся ягоны тамада, апрануты ў элегантны чырвона-зялёны сурдут. — Ну, Васенька, па-адрыхтуйся! І вы, мае кветачкі, давайце таксама. Сёньня трэба, каб усё было прыгожанька.

Запахла бэнзынам. Як высьветлілася, у кожнай з паненак была з сабой плястмасавая бутэлечка з гэтым рэчывам, і цяпер арфісткі пралілі яго на свае сукенкі і валасы.

Дырыжор папераджальна ўзьняў руку з палачкай, і гэта было знакам для дзявочага аркестру.

Чароўныя гукі арфаў адразу ўсьпенілі паветра, напоўніўшы яго папулярнай у той час поп-мэлёдыяй, адмыслова перакладзенай для гэтага складу выканаўцаў. Недзе хвіліне на трэцяй у музыку раптам уварваўся подых агню, які патыхнуў ажно з трох розных месцаў.

(І ўсё-такі малайчынка той, хто так усё задумаў, чуўся з гэтай нагоды задаволены хрыплы бас аднекуль з натоўпу. Дужа мудрагеліста атрымалася, зусім не адразу, ня тое што летась. — Ай, весялей, каб па адной, — тут жа адказалі яму.)

Сукенкі загараліся імгенна; тыя дзяўчаты, якім давялося стаць жывой паходняй, адразу кідалі граць і сьціналіся ў жудасным крыку — што, мяркуючы па ўсім, дужа расчароўвала рэжысэра сьвята і шмат каго з публікі, хаця і троху весяліла.

Гукі арфаў самых трывалых удзельніцаў сьвята, што яшчэ толькі прадчувалі ўласную сьмерць, але самі пакуль не пасьпелі паўдзельнічаць у гэтым працэсе, сплятаrange з поўнымі нясьцерпнага болю крыкамі, а тыя, у сваю чаргу, — са сьмехам і аплядысмэнтамі, якія даносіліся з боку публікі. І з кожным імгненьнем музыкі было ўсё меней і меней.

Празь дзесяць хвілінаў забава скончылася, бо апошняе дзявочае цела пераўтварылася ў попел, сярод якога, калі прыгледзецца, можна было ўбачыць дзіўныя фігуры са струпехлых абгарэлых костак. Але перад гэтым у сумрачным вечаровым небе на нейкіх пару сэкундаў зазьзяў выкладзены з вогненных целаў надпіс: «NEW-BABILON FOREVER!».



## 7

Бачыш, Лінда, мы так і засталіся па розныя бакі павуціньня нечых валасоў, якое і тады падзяляла нас, зьвісаючы сеткай са столі: у тым разьбітым тэлефон-аўтамаце, што стаяў у выгаралай падчас апошняга пажару частцы гораду спасярод пустых вачніцаў чорных дамоў. І цяпер я не магу ганарыцца, што меў каханьне з, несумненна, самай абаяльнай жыхаркай Нью-Бабілёну, як, зрэшты, і ты не займела гэтага досьведу зь «нетутэйшым» хлопцам.

Тым вечарам шкло танюткай крынічкай цурчэла з твайго рота; гэта былі дробненькія каляровыя шкельцы, накшталт раструшчаных ботам елачных цацак, і промні пражэктараў, якія дзіўным чынам даляталі нават сюды, зіхацілі іх і расквечвалі іржавыя сьцены зробленай з тоўстай бляхі тэлефоннай будкі водбліскамі кволых вясёлак.

Нашае маўчаньне, пры ўсёй ягонай недвухсэнсоўнай інтымнасьці, было ня менш пакутлівым і недарэчным, як любыя словы альбо дзея. І нічога не зьмяніла тое, што пасьля мы доўга і гучна сьмяяліся і да зьнямогі танчылі на нейкай вулічнай дыскатэцы, вёртка ўхіляючыся ад наканечнікаў цэп-машыны і стрэлаў катапультаў, якімі забаўлялі тых, хто пасьля іх заставаўся жывым, ня дужа ўмелыя мясцовыя ды-джэі, а потым змывалі з вопраткі чужую крывю ў найбліжэйшым «Мак-Дональдсе». Я ўсё разумеў, Лінда, і мне здавалася, што ты ўсё разумела таксама — адзіная сярод усіх. Але мне было дужа цяжка адчуць твой боль — хаця б таму, што добра выпіўшы вашага цудоўнага віна, я ўжо амаль забыўся на свой.

Нейкім дзіўным чынам я ўсё ж такі зьехаў адтуль, і мой амулет адабралі на мяжы суровыя мытнікі, нізавошта не

дазволіўшы пакінуць яго сабе на памяць. Таму для мяне ўсё гэта скончылася, і я магу цяпер доўга аддавацца нязмушаным успамінам, забываючы тое, што мне хацелася б забыць, і засяроджваючыся на прыемных момантах. Хутка я зраблю касмэтычную апэрацыю, якая дарэшты выдаліць паленую скуру на маім запясьці, і тады забудзецца наогул усё, пераўтварыўшыся ў вычварны сон.

Ты ж засталася: я ня ведаў, якімі словамі выказаць сваю прапанову зьехаць адтуль, і таму нават не наважыўся яе вымавіць.

Я бачу, як ты выходзіш са свайго ўтульнага дамка, што стаіць у добрым раёне на ўскраіне места, апранаеш вельмі мілы аранжавы капялюшык, адкідаючы бялявыя валасы. Зьлёгку пасьміхаючыся, праводзіш памадай па танюткіх губках і нясьпешна скіроўваешся ў краму, каб купіць там кока-колы і лёдава.

Ты заўсёды ганарылася тым, што ўмела здавацца нармалёвай дзяўчынай і магла добра пачувацца, скажам, у кампаніі сваіх аднагрупнікаў з каледжу. І калі на цябе нападала штосьці… ня тое, нязьменна знаходзілася даволі сродкаў, каб зрабіць сваю ненармальнасьць легітымнай. Апроч таго, вашыя касмэтычныя фабрыкі славяцца сваімі крэмамі ды дэзадарантамі, здатнымі ў адно імгненьне зьнішчыць непрыемны пах смаленай скуры.

Але ж як гэта ўсё магло зьменшыць твой боль, Лінда? Бо, ізноў жа, ты была адзінай, хто разумеў, што гэты боль абсалютна рэальны, а ўсё астатняе — не. Хто б табе што ні казаў.

І цяпер ты засталася ў іншай краіне — краіне, якая, спадзяюся, ніколі ня будзе маёй. Туды, дзе ёсьць ты, наўрад ці мож-

на адправіць e-mail — зрэшты, мы, вядома ж, не абмяняліся адрэсамі.

Я буду за цябе маліцца. Цяпер я гэта магу.



## 9

У нашай прэсе амаль ня пішуць пра нацыянальную культуру самагубстваў, распаўсюджаную ў гэтых мясьцінах. І мне дужа прыемна быць першым, хто паведаміць нашае грамадзкасьці, што жыхары такога высокацывілізаванага гораду як Нью-Бабілён, здолелі пераўтварыць гэты звычайны экзыстэнцыйны акт у сапраўды выбітную падзею, не пазбаўленую эстэтызму, уласьцівага бадай усяму іх побыту.

Пра апошняе сьведчыць хаця б той уражвальны набор неверагодна прыгожых ды вынаходліва зробленых аксэсуараў, неабходных для разьвітаньня з жыцьцём. Іх можна набыць у невялічкіх сувэнірных крамках, якіх процьма на цэнтральных вуліцах горада.

Толькі каляровых матузкоў для шыбенікаў я налічыў у адной лаўцы нешта каля трох тысячаў. І якіх там толькі не было! Бірузовыя, блакітна-зялёныя, ружовыя, урэшце, колеру хакі — спэцыяльна для прыхільнікаў экстрэмальнай музыкі.

У суседняй вітрыне выстаўленыя перадсьмяротныя запіскі. Як мне сказалі, апошнія пару год стала модна не пісаць іх самім, а карыстацца ўжо гатовымі — можна пайсьці ў краму і абраць тую, якая табе найболей да густу. І, мушу адзначыць, ёсьць з чаго выбіраць.

Для людзей простых, пераважна сталага веку, ня схільных да асаблівага антуражу ў вырашэньні сваіх асабістых справаў, прызначаныя гэтыя поўныя лёгкага гумару радкі зь дзіцячай лічылкі:

*Раз-два-тры-чатыры-пяць,*
*Зайчык выйшаў пагуляць.*
*Ну а мне пізьдзец…*

Моладзь, вядома ж, абірае іншыя, больш мудрагелістыя пасланьні: напрыклад, урыўкі зь песень папулярных у гэтай краіне «Бэкстрыт бойз» і «Мэрлін Мэнсан» альбо анархісцкія лёзунгі.

Безумоўна, творчы падыход характарызуе і выбар месца зьдзяйсьненя свайго апошняга ў гэтым жыцьці ўчынку. Пэўны

час процьма вісячых тулаваў, што кожнага вечару зьяўлялася на гарадзкіх дрэвах ды ліхтарах, трохі надавала жыхарам Нью-Бабілёну клопатаў, але дзякуючы мудраму рашэньню мясцовых уладаў, усе праблемы неўзабаве былі вырашаныя. Колькі год таму да целаў шыбенікаў, якімі спрэс усеяная цэнтральная вуліца места, сталі чапляць рэклямныя плякаты, а на сьвяты іх нязьменна ўпрыгожваюць зіхоткімі каляровымі гірляндамі.

Вуліцы, дзе павешаных найбольш, нязьменна стаюцца улюбёным месцам для дзелавых рандэву, а таксама спатканьняў закаханых. Ну і, вядома, такая гарадзкая адметнасьць аніяк ня можа не прыцягваць увагу турыстаў

Вось яшчэ адзін адказ на пытаньне, як можна эфэктыўна палепшыць выгляд свайго гораду, пры гэтым забясьпечыўшы ягоны бюджэт дадатковымі паступленьнямі.



## 12

Шпацыр уздоўж чыгуначных шляхоў: вясновы цёплы надвячорак, набрынялае пахам прагарэлага мазуту паветра, чорны бацькаў сурдут, моцна зьедзены мольлю, ускудлачаныя валасы трапляюць у вочы: здаецца, і вочы ўжо таксама пахнуць мазутам.

*Ты ведаеш што-небудзь пра яе? Ці ты ведаеш? Ты бачыла калі-кольвечы... гэтую? Людзі яшчэ малююць яе з касой*.

Палі гумовых жаданьняў: аголеныя гумовыя людзі з рознакаляровымі малаточкамі. Людзі сьляпыя, але яны хочуць кусіць

Перад вачыма ў яе суцэльная няпэўнасьць. Часам нешта клейкае, і ёй здаецца, што яшчэ хвіля, і яна зваліцца ў вантробы каменаломні, поўныя зіхоткага чырвонага кіпеня, саладжавага на смак, як тыя цукеркі, каробку якіх яны калісь у незваротным дзяцінстве куплялі зь сяброўкай у складчыну. Але цераз імгненьне ўсё тыя ж рэйкі і вясновы надвячорак.

Вершнік канца: я бачыла яго ў сьне, ён амаль такі, як па тэлевізары, і рожкі яшчэ на ім ёсьць я выйшла насустрач табе о вершнік канца як нявеста са сьвечкай у руках

Вар'яцкая стомленасьць. Хочацца ўпасьці ў гэтую мокрую, выцьвілую яшчэ немаведама ў якім годзе да Раства Хрыстовага траву, занурыцца ў яе тварам, набіць ёю рот, аддаць ёй сваё дыханьне.

Сонца адбіваецца ад паверхняў рэек, яшчэ не дарэшты пакрытых іржой. Тут ужо даўно ня ходзяць цягнікі, і таму пануе надзвычайны спакой. Напэўна, можна нават птушак пачуць, але яна іх нешта ня чуе.

Над вёскай узьвіліся ў неба колькі дымкоў. Яна адна. Брудныя валасы склейваюцца ў камяк і ўжо ці не перашкаджаюць дыхаць.

*Прадчуваньні канца зьявіліся ўпершыню бадай яшчэ ў дзяцінстве. Гэтая непаўторная ўпэўненасьць у нявечнасьці сьвету, што прыходзіць як тать ноччу, гэтая заварожанасьць нябытам*.

Сёмачка трымаў у руцэ вавёрку з толькі што адсечанымі вушамі. Як ні дзіўна, яна яшчэ дыхала і нават, здавалася, нешта сьпявала на матыў Тоні Брэкстан. Потым ён засунуў яе ў электрамясарэзку, і гэтыя сьпевы зьмяшаліся з рыпеньнем маторчыка. Рудая воўна абкручвалася вакол вінта і перашкаджала працаваць машыне. Яны абмазалі свае твары крывёю — яшчэ цёплаю, перамяшанаю з вантробамі. Елі сырое мяса, мяса з ахвярніка Яе Вялікасьці Невядомасьці, ахвярніка той жудаснай пустэчы, якая ўрэшце паглынула іх і пераўтварыла іхнія блакітныя вочы ў бурду накшталт напою «Крыжачок». Напэўна, яны былі шчасьлівыя ў тыя імгненьні. Але ж як хутка яны скончыліся!

Але дзеля чаго? Яна адна

bullshit невымоўнасьць..............................................................................................................час, калі крывавіць маўчаньне, кавалкі нейкіх гострых мэханізмаў выпархваюць з рота і ўрэшце ўсё ў крыві

...Літаральна ў мэтры над ягонай галавой узвышалася тоўстая корка лёду, а дзесяцісантымэтровая адлегласьць паміж ёй і паверхняй вады была ўсьцяж запоўненая касякамі мёртвых рыбак. Ужо два месяцы гэтаму касманаўту даводзілася блукаць тут, і за такі вялікі час скафандар добра набрыняў вадой ды

ацяжэў. І якога, цікава, чэлеса яго сюды занесла? Як ні як, ён быў Гагарыным, і згодна з усімі ўяўленьнямі пра здаровы сэнс меўся знаходзіцца зусім у іншым месцы, ніж бэтанаванае дно Камсамольскага возера.

Нічога не застаецца. Такое ўражанньне, быццам яна ўжо даўно скончылася.

слова авэль перакладаецца як подых ветру



**II. УЦЁКІ**

Рэальны боль. Тое, што я не магу апісаць, тое, дзе мастацтва нівэлюецца, як распадаюцца пры награваньні малекулы.

Тады, аголены, я коўзаўся па роўных квадрацiках ходніку, ліжучы ягоную шурпатую ды чамусьці, як мне падалося, трохі саладкаватую паверхню, пускаючы пену з вачэй і скуголячы бы сабака. Мне вельмі карцела ўкусіць за лытку прадавачку піцы, чый вазок з грукатам тысячаў калясьніцаў пракаціўся міма, але нават і з гэтым нічагуткі не атрымалася. Кароткім і трапным ударам нагі прадавачка адштурхнула мяне, выгукнуўшы пры гэтым: «Малады чылавек, ну шо вы сябе пазваляіце?». Давялося кусаць сябе, але было нясмачна.

Боль працінаў мяне наскрозь, ён не даваў мне дыхаць, у маёй груднoй клетцы была малюткая пячурка-буржуйка, напаленая дазваньня, зь якой раз-пораз выпархвалі зіхоткія іскаркі, і якісьці дзед Яўхім варушыў галаўні, зьлёгку пасьміхаючыся сабе ў вусы і глыбока зацягваючыся беламорынай.

Наўпрост нада мною, у мэтры ад зямлі, прамінула шасьцідзесяцігадовая цяжарная прастытутка; яна адразу ж і разрадзілася, і зь ейнага жыватаываліўся брудны чыгуновы слонік; ён пляснуўся на асфальт, балюча падрапаўшы мне папяэрэдне скуру на патыліцы. Я дурнавата пасьміхнуўся сам сабе.

Менавіта ў адзін з такіх момантаў (а тады я ні на каліва не сумняваўся, што гэты момант быў тоесны вечнасьці) Ён сустрэў мяне

І тая радасьць, якой надзяліў мяне Ісус, была куды мацнейшай за жудасны боль. Невымоўная радасьць

...вы не паверыце, але гэта сапраўды здарылася са мной — літаральна за гадзіну да таго моманту, калі я напісаў толькі што прачытаныя вамі радкі.



Хай, сябры, пасьля музычнай паўзы з вамі па-ранейшаму DJ Нафтызін і чароўная Ы. Працягваем наш хіт-парад анэкдотаў за гэты месяц, зроблены разам з «Бабілёнкай». Дык вось, на шостым месцы… на шостым месяцы… Ведаеце, пасьля таго выпадку, як адзін мой сябрук стаў займацца каханьнем са сваёй марской сьвінкай, у ягонай (чуеш) … (гм. Га-га!)… сяброўкі (і чаму яны, казлы, блін, не зрабілі аборт? Пакармілі бы гэтай хернёй лепш сабакаў.) зьявілася ажно шэсьць…

— Васенька, а твая мама ўмее бляваць носам?

…ажно шэсьць…

…Я табе зараз блевану, бля…

…шэсьць дзяцей, якія сёньня прэтэндуюць на жылплошчу… Дык вось, на шостым месяцы… на шостым месцы... Вельмі і вельмі неблагі анэкдот, дасланы адной нашай чытачкай:

**грэх гэта сьмерць**
**а сьмерць гэта сон**
**СЬПІЦЕ СПАКОЙНА!**

грэх гэта жудасны сон. Гэта сон, які яшчэ больш жудасны за рэчаіснасьць. Васьмігадовую Крысьціну, канешне ж, не папярэдзілі, што ейны дом неўзабаве згарыць разам з усімі ягонымі жыхарамі, і яна, пасьміхаючыся, заснула ў сваім утульным дзіцячым пакойчыку, лашчачы ў дрымоце ўяўнае кацяня.

і вось гмах створаны з гумы гарыць гарацъ гумовыя валасы і пальчыкі з манікюрам на пазногцях чыесьці сьпіцы ўсё яшчэ працінаюць расплаўленую падгарэлую сьлізкасьць з шыпеньнем плавяцца нашыя чыгуновыя сьлёзы мэталь тут перастае быць нават хутчэй ніж выпараецца падчас крэмацыі тлушч у складках вуснаў тут сканчаецца збуцьвелы кожны рух гарацъ рухаючыся сьпяшаючы да мэтро натоўпы гумовых целаў плавяцца і губляюць форму ім не хапіла імгненьня на тое каб усьвядоміць і

Шапік, што стаяў каля прыпынку, фірмовая крама «Сіменс», каля якой мы калісьці ўпершыню паглядзелі адно аднаму ў вочы… усё пераўтвараецца ў суцэльны бясформены камяк створаны зь цеплаватае азызлае клейкасьці. Гумовы калабок будзе каціцца торгаеш сутаргава дзьверы, нібыта ня памятаючы, як сам іх зь вечара і зачыніў

скрозь цела прадзіраюцца парцалянавыя вожыкі — такія дробненькія шурпатыя шноўдаюцца шкрабуцца шабе

**СТОП!**дык няхай гэты сон скончыцца. Няхай зламаецца жудасны сьвярдзёлак, які ўсё глыбей і глыбей укручваецца ў нас. І я насычу гэты горад праклёнамі, на кожнай ягонай сьцяне будзе красавацца сьпешкам выведзены спрэевай фарбай надпіс:

NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE NEW-BABILON MUST DIE
NEW-BABILON MUST DIE

Чэрвень сёлета выдаўся неверагодна сонечным, і ўжо недзе а дзясятай раніцы ад сьвяціла аддзяліўся маленькі зайчык-русак, асьцярожна спусьціўся па фіранках на падлогу Крысьцінавага пакойчыку і лёгенька паторгаў дзяўчо за плечыка. Крысьціна прамуркатала штось, пацягнулася і расплюшчыла вочы. Але зайчык ужо пасьпеў схавацца — напэўна, ён хуценька шугануў пад ложак. Крысьціне нават здалося, быццам яна бачыла, як на ймгненьне прамільгнуў перад вачыма ягоны хвосьцік.

Яна нават і ня ведала, што ў гэтую ноч гумовы горад згарэў.